8 чэрвеня 2018 | № 21 (584)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Казахстан: як кіраваць бясконца**

Стар. 8

ISSN 2218-2144







**4 АД ГЕАПАЛІТЫКІ ДА СЯНАЖНЫХ ТРАНШЭЙ**

У Беларусі дэмакраты не менш, чым на Захадзе, хоць шуфлем заграбай. А тое, што яна не пазбаўленая нацыянальнага каларыту, — дык гэта варта толькі вітаць, чым беларускія топ-чыноўнікі рэгулярна і займаюцца

**5 ЦІ МАЮЦЬ ШАНЕЦ НА САЦЫЯЛІЗАЦЫЮ ЛЮДЗІ З ПСІХІЧНЫМІ ПАРУШЭННЯМІ?**

Ты можаш мець некалькі адукацый, шматгадовы досвед працы, сам сябе абслугоўваць і адазвацца за свае ўчынкі. Але ты не можаш самастойна абіраць, як жыць

**6–7 БЕЗ КАМПРАМІСАЎ?**

Як 25 гадоў таму Лукашэнка пачаў крочыць да ўлады



**10–11 «РЭСТАРАН ЗБАНКРУТУЕ БЕЗ ПРАТЭСТАЎ»**

На пытанні пра Курапаты, Стары замак у Гродне ды іншыя аб'екты спадчыны адказвае старшыня добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч

# Ліквідацыя гісторыі

**Гісторыю Беларусі хутка можна будзе вывучаць толькі факультатыўна**



Сяргей ПУЛЬША

Не паспелі мы ачомацца ад ініцыятывы нашага міністра адукацыі па скарачэнні ў школах выкладання англійскай мовы (маўляў, і так у нас «англічанаў» шмат), як нас напаткала новая рэформа. У ВНУ плануецца ліквідаваць курс «Гісторыя Беларусі».

Гісторыю збіраюцца скарачыць пад тым жа соусам: яе забагата. Нібыта, студэнты гісторыю і так ведаюць, бо вучылі ў школе, і нават здавалі экзамен. Замест яе плануецца ўвесці новы курс пад назвай «Гісторыя беларускай дзяржаўнасці».

Наконт школьнага выкладання гісторыі Беларусі мы нічога казаць не будзем, каб у чарговы раз не засмучацца. Справа ў іншым.

Гісторыя — гэта не «адарваны ад жыцця» прадмет. Яна так ці інакш уплывае нават на сённяшняе жыццё, не кажучы ўжо пра тое, што непарыўна звязаная з іншымі навучальнымі дысцыплінамі. Яе нельга «ўзяць і адмяніць» — прынамсі, у гуманітарнай вышэйшай адукацыі.

Просты прыклад. Я, канешне, даўно вучыўся на журфаку, але на курсе «Гісторыя беларускай журналістыкі» мы вывучалі «Мужыцкую праўду» Кастуся Каліноўскага. А як можна вывучаць «Мужыцкую праўду» ў адрыве ад агульнай гісторыі паўстання 1863–1864 гадоў? Альбо той жа перыяд «Нашай Нівы» пачатку мінулага стагоддзя. Ці можна сказаць: вось тут Купала — паэт, а вось тут — супрацоўнік газеты? Альбо вось тут Вацлаў Ластоўскі — сакратар «Нашай Нівы», вось тут ён — дзеяч БСГ, а тут — гісторык?

Мы ва ўніверсітэце, на шчасце, вывучалі ўсё гэта ў комплексе. Са знікненнем з ВНУ прадмета «Гісторыі Беларусі» ўзнікнуць непазбежныя лакуны ў выкладанні, здавалася б, «негістарычных» і спецыялізаваных прадметаў. І, каб веды былі якаснымі, студыёзусам давядзецца хадзіць на факультатывы па той жа самай гісторыі.

Новы курс — «Гісторыя беларускай дзяржаўнасці» — таксама даволі цікавы. Над ім ужо працуюць адмыслоўцы, але самі гэтыя адмыслоўцы дагэтуль спрачаюцца нават наконт пункту адліку той дзяржаўнасці. Ад чаго яна пайшла? Ад крывічаў, радзімічаў і дрыгавічоў? Ад Вялікага Княства Літоўскага? Ад стварэння БССР? Ад прыняцця Дэкларацыі аб незалежнасці?

Некаторыя СМІ нават заўважылі, што некалькі гадоў таму ў Беларусі з'явіўся музей «беларускай дзяржаўнасці». Яго наведвальнікі са здзіўленнем даведваюцца, што гісторыя беларускай дзяржавы пачынаецца нават не 1990-га, а з... 1994-га — з абрання Лукашэнкі на вышэйшую дзяржаўную пасаду. Як спяваў Вольскі, «не было Галілея, ні Боба Марлея, не было Сальвадора Далі». Так і тут — ні Пазняка з Шушкевічам, ні Кебіча і ні Дземянцея...

Старшыня камісіі па адукацыі, культуры і навуцы ў парламенце Ігар Марзалюк, які працуе над праграмай разам з калегамі, кажа — дзеці вучаць у школе гісторыю Беларусі, але школьнікі не ведаюць гісторыю развіцця беларускай дзяржаўнасці і яе формы: права, законы і канстытуцыі. «Усё гэта будзе ў вялікім, на 54 гадзіны, курсе, які будзе прапанаваны для ўсіх вышэйшых навучальных установаў незалежна ад профілю», — паведаміў Марзалюк.




Тут узнікае яшчэ адна праблема. Скарацiўшы ў ВНУ гісторыю Беларусі, спадар Марзалюк у «вялікім, на 54 гадзіны, курсе» прадублюе іншы школьны прадмет. У нас ён называўся «Чалавек. Грамадства. Дзяржава», у іншых — «Грамадазнаўства», яшчэ ў іншых — «Чалавек і грамадства». Менавіта ў межах гэтага прадмету ў старшых класах школы павінна вывучацца тое, пра што кажа дэпутат, — права, законы, Канстытуцыя.

Калі іх нармальна ўводзіць у курс вышэйшай школы, непазбежна паўстане праблема палітычная, на якую наўрад ці разлічваюць стваральнікі. Напрыклад, студэнты добра вывучылі беларускую Канстытуцыю. Потым выкладчыкам давядзецца тлумачыць, чаму Асноўны закон дзяржавы не мае наўпростага дзеяння. Чаму ўказы і дэкрэты, якія супярэчаць Асноўнаму закону, маюць у дзяржаве большую вагу, чым закон. Чаму не працуе прынцып вяршэнства міжнароднага права перад нацыянальным, закладзены ў Канстытуцыі. Чаму ў Беларусі дагэтуль існуе смяротнае пакаранне, што супярэчыць міжнародным абавязальніцтвам Беларусі. Чаму валюнтарысцкія рашэнні (напрыклад, наконт будаўніцтва АЭС ці Дэкрэту №3) вышэйшыя за закон...

> **Чалавек, які вывучае ў ВНУ законы і адначасова бачыць, як яны не выконваюцца, наўрад ці будзе патрыётам**

Кажуць, што новы прадмет павінен, у першую чаргу, не толькі вучыць і падымаць адукацыйны ўзровень, але і «выхоўваць сапраўдных патрыётаў». Наўрад ці чалавек, які вывучае ў ВНУ законы і адначасова бачыць, як яны ў дзяржаве не выконваюцца, будзе патрыётам такой дзяржавы. Ні пра які патрыятызм (у адрозненне ад выкладання гісторыі Беларусі, зазначу) тут гаворка ісці не можа.

Да таго ж, для «выхавання сапраўдных патрыётаў» у нас ужо існуе прадмет пад назвай «Ідэалогія беларускай дзяржаўнасці». Самы загадкавы прадмет — яго выкладаюць, па ім пішуць рэфераты і курсавыя, але ўцямна патлумачыць, што гэта такое, ніхто так і не можа.

Ліквідацыя гісторыі Беларусі ў ВНУ выклікае столькі пытанняў, што можна бясконца паўтараць «рэфарматарам»: адчапіцеся ад адукацыі! Дайце ўстаканіцца тым рэформам, якія вы ўжо нанараціла. І свае новыя ідэі пакіньце на потым. А лепш — не на «потым», а на «ніколі».

# Курапаты: змаганне працягваецца, але…

Сяргей ПУЛЬША

**Рэстарацыя «Паедзем, паядзім» у Курапатах так і не зазнала ўрачыстае адкрыццё. І наўрад ці такое адкрыццё будзе. Падобна на тое, што грамадскія актывісты зробяць гэты аб'ект харчавання нерэнтабельным.**

Урачыстае адкрыццё рэстарацыі ў комплексе, які стала завецца «Бульбаш-холам», было запланавана на 1 чэрвеня. Грамадскасць была абураная, і напярэдадні адкрыцця распрацавала план абароны. А дакладней — план «закрыцця» забаўляльнага аб'екта ля Нацыянальнага некропалю.

Справа ў тым, што ад пачатку будоўля «Бульбаш-холу» вялася з парушэннямі. Будаўнікі ўлезлі ў ахоўную зону ля Курапатаў. На гэта адрэагавала нават пракуратура, якая пастанавіла выправіць парушэнні. Але потым, як кажуць, «заднім лікам», ахоўная зона была зменшаная да 50 метраў — і забаўляльны комплекс быў «узаконены» (больш падрабязна чытайце на стар. 11).

З такім змяншэннем актывісты не згодныя. А таму зараз патрабуюць перадаць увесь гэты комплекс пад музей сталінскіх рэпрэсіяў. Маўляў, такім чынам вырашаецца шмат маральных і юрыдычных пытанняў: музей мае права на існаванне ў ахоўнай зоне, уладальнікі комплексу атрымаюць іміджавы і рэкламны «гешэфт», усё будзе ў парадку і з наведвальнасцю аб'екта, і з маральным пунктам гледжання на праблему.

У дзень планаванага адкрыцця ля брамы рэстарацыі прайшоў пікет пад назвай «Не кабак, а музей». Урачыстага адкрыцця не адбылося, а актывісты паставілі ля рэстарацыі вахту.

Другі раз "Паедзем, паядзім" планавалі адкрыць 5 чэрвеня. І зноў адкрыццё было сарванае: пікетоўшчыкі проста не прапускалі машыны, якія ехалі на тэрыторыю рэстарацыі. У тым ліку, машыны з прадуктамі, чым відавочна псавалі рэстарацыі бізнес. Але, бачна, што і без пікетоўцаў справы ва ўладальнікаў гэтага аб'екта ідуць не лепшым чынам: за вечар 5 чэрвеня толькі адзін (!) чалавек прызнаўся, што заехаў туды паесці. Пры гэтым у самой рэстарацыі — тры залі для мерапрыемстваў агулам на 200 і больш чалавек.

Аматара смачнай ежы пакусала адна з пікетоўшчыц. Вынік — дзве сустрэчныя заявы ў міліцыю наконт цялесных пашкоджанняў, бо і пакусаны таксама распускаў рукі.

Уладальнікі рэстарацыі кажуць, што яны абавязкова адкрыюць урачыста, але калі — не паведамляюць. І кажуць, што зараз працуюць «у тэставым рэжыме». Рэстарацыя, нібыта, прымае наведвальнікаў — але або позна ўвечары, калі абаронцы знікаюць, або нейкімі «падпольнымі» шляхамі.

У той жа час «тэставы рэжым» працягвае наносіць ім іміджавыя страты. Наўрад ці нехта паедзе паесці пад пагрозай таго, што яго самога могуць пакусаць. Дый каму цікава наведваць «падпольна» звычайную рэстарацыю? Бізнесоўцы, якія пастаўляюць у рэстарацыю прадукты, таксама наўрад ці працягнуць з ёй кантракты — нікому не выгадна, калі здзелкі зрываюцца праз пратэсты. Між іншым, харчы — не той тавар, які захоўваецца бясконца.

Ва ўладальнікаў рэстарацыі можа быць толькі адна тактыка: вымотваць абаронцаў Курапатаў, рэгулярна абвяшчаючы пра «адкрыцці». І сапраўды адкрыцца тады, калі абаронцам надакучыць туды бегаць.

Але, як паказвае практыка, — досвед абароны ўрочышча напачатку 2000-х і ў 2017-м, — імпэту ў абаронцаў хопіць надоўга. Тым больш, што зараз не зіма і не вясна, а лета.

Калі ж нават імпэт скончыцца, абаронцы Курапатаў маюць шмат іншых спосабаў уздзеяння на рэстарацыю. Напрыклад, масава пакідаць запісы ў кнізе скаргаў. Замаўляць залі пад банкеты, і не праводзіць іх. Займаць столікі са шклянкай вады на 2–3 гадзіны. З любой, нават самай мінімальнай нагоды скардзіцца ў кантралюючыя органы. Карацей, усяляк сабатаваць працу ўстановы.

Праз паўгода-год такой працы рэстарацыя збанкрутуе. І тады гэтыя памяшканні давядзецца альбо прадаваць, альбо шукаць ім новае прызначэнне.

Хто рызыкне набыць рэстарацыю з такім іміджам? Бадай, ніхто. Застанецца гэты аб'ект поўнасцю перапрафіляваць.

І тут ужо ва ўладальнікаў пляцоўкі ёсць два выйсця. Ці сапраўды аддаць аб'ект пад музей сталінскіх рэпрэсіяў, не атрымаўшы за яго грошай. Ці атрымаць грошы хаця б мінімальныя, здаўшы плошчы пад тое, што зараз завецца «культурна-адукацыйнымі прасторамі».

Такіх месцаў у Мінску хоць і багата, але ўсё роўна не хапае. І гэта было б выдатным кампрамісам: з аднаго боку, у культурніцкай прасторы можна будзе праводзіць і «курапацкія» вечарыны. З іншага — гэта не забаўляльнае месца. Дый есці наведвальнікам такіх прастораў таксама трэба.

У любым разе, наконт такога «рэдызайну» з абаронцамі Курапатаў можна і дамовіцца.

# «Наша Ніва» больш друкавацца не будзе

**«Наша Ніва» спыняе рэгулярны выхад папяровай газеты. Пачытаць яе матэрыялы можна будзе толькі ў электроннай форме. Цяпер выходзіць апошні нумар газеты, а далей НН будзе існаваць выключна як партал NN.BY.**


НАША НІВА

1991 2016

НОВЫ ЭТАП

«"Наша Ніва" паказала ўсім прыклад, як адаптавацца да новай эпохі… У далейшым друкаванні яе не засталося практычнага сэнсу. Хоць, здаючы апошні выпуск, мы з настальгіяй і захапленнем разглядвалі нашы старыя першыя палосы», — напісала рэдакцыя.

«Інтэрнэт — новая эпоха чалавецтва, настолькі ж прагрэсіўная ў параўнанні з паперай, як калісьці вынаходства Гутэнберга — проці рукапісных фаліянтаў», — лічаць у рэдакцыі «Нашай Нівы» і дадаюць, што яны б «даўжэй трымаліся за папяровае выданне, калі б яму не было альтэрнатывы, калі б мы былі адзінай крыніцай інфармацыі для старэйшых, хто не мае доступу да інтэрнэту. Але ж ёсць якасныя, патрыятычныя «Народная воля», «Новы Час», «Рэгіянальная газета», іншыя выданні».

# Клубнічныя «каралі» ў сезон спяць па чатыры гадзіны

Таццяна ГУСЕВА

**Каб зарабіць на адпачынак, жыхары беларускага Палесся бяруць адпачынак.**

Сямейная пара Ірына і Андрэй прадаюць клубніцы на слуцкім рынку.

— Мы ўстаём у чатыры раніцы, каб заняць лепшае месца, — распавялі яны «Салідарнасці».

На мінскай Камароўцы цэны на ягаду вышэй, але і канкурэнцыя за месца больш высокая. Акрамя таго, ехаць даўжэй — плюс 100 кіламетраў. Таму Ірына і Андрэй прыязджаюць гандляваць у Слуцк.

Ірына працуе прадаўцом у прыватніка. У клубнічны сезон яна дамаўляецца з наймальнікам на адпачынак. Паводле яе слоў, многія жыхары Лунінца бяруць адпачынак у гэты час.

Андрэй распавядае, што падчас збору ўраджаю клубніцаў яны спяць па чатыры гадзіны на суткі.

На пытанне аб тым, як жывуць клубнічныя «каралі», Ірына і Андрэй смяюцца:

— Каралі ў нас у Палацы жывуць.

Вёска з казачнай назвай Палац — цэнтр, куды прыязджаюць перакупшчыкі трускавак.

На пытанне, колькі можна зарабіць на ягадзе, якую жыхары Палесся называюць «чырвоным золатам», суразмоўцы жартуюць: "Хто ж вам праўду скажа?"

Ірына і Андрэй плануюць выдаткаваць заробленае ў клубнічны сезон на адпачынак. Напрыклад, на паездку да мора.

Праз некалькі дзён Ірына прыедзе на рынак з мамай — у мужа няма адпачынку на ўвесь сезон.

Гэтая сям'я — не адзіная, хто прыязджае на слуцкі рынак гандляваць клубніцамі, якія мясцовыя добра бяруць — свая ягада яшчэ не паспела.

Мікалай з Лунінца кажа, што ў іх раёне на клубніцах не зарабляе хіба што лянівы. У мужчыны трое дарослых дзяцей і ўнукі. Для іх гэта сямейны бізнес. На рынак Мікалай прыехаў з нявесткай, якая дапамагае гандляваць.

— Мы не здаём ягаду перакупам, таму што ў нас невялікія ўчасткі. Нам больш выгадна самім прадаваць, — кажа ён.

Мікалай не памятае, колькі каштавала ягада ў мінулым сезоне. У цяперашнім, паводле яго слоў, вялікі ўраджай, а гэта значыць — цана на ягаду будзе зніжацца.

**Пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# «Усходні фронт»: пачатак?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Пуцін шчоўкнуў па носе Лукашэнку. Зазвычай першы замежны візіт новаабраны кіраўнік дзяржавы здзяйсняе да бліжэйшага саюзніка. Гэта не дыпламатычны пратакол, але непрапісаная традыцыя.**


Фота www.rossaprimavera.ru

А Пуцін першы візіт здзейсніў у Аўстрыю. Гэта не вельмі здзіўляе: у складзе цяперашняга аўстрыйскага ўрада — Партыя свабоды, адна з найбольш пракрамлёўскіх палітсілаў Еўропы, а канцлер Себасцьян Курц выказваўся за замену санкцый супраць Расіі нейкай «больш гнуткай» сістэмай. Да таго ж, з 1 ліпеня ў рамках прынятай у ЕС ратацыі Аўстрыя на паўгода стане старшынёй Еўрапейскага саюза. А ў канцы чэрвеня на саміце ЕС будзе вырашацца пытанне аб падаўжэнні еўрапейскіх санкцый супраць Крамля.

І таму першы візіт Пуціна ў Аўстрыю — відавочны сігнал таго, што еўрапейскія санкцыі для нашай суседкі — усё ж балючыя. І Расія мае намер замірыцца з Еўропай. Але як гэта будзе атрымлівацца на справе — вялікае пытанне.

Беларускаму ж кіраўніцтву Пуцін прадэманстраваў яго сапраўднае месца ў новай сістэме расійскіх каштоўнасцяў. Ад Сінявокай мала што залежыць — раз, мы ўжо не самы блізкі сябра — два. Пытанне толькі ў тым, як далей да Беларусі будзе ставіцца Крэмль. Альбо прасаваць як не роднага, альбо ставіцца як да свайго рэгіёну. Ні тое, ні тое беларускаму кіраўніцтву не спадабаецца.

Але зрабіць з гэтым беларускі ўрад і айчыннае кіраўніцтва наўрад ці што зможа — найперш па эканамічных прычынах.

Днямі прэм'еры Расіі і Беларусі Мядзведзеў і Кабякоў абмеркавалі двухбаковыя адносіны і перспектывы развіцця ўзаемадзеяння ў рамках удзелу ў пасяджэнні Савета кіраўнікоў кабінетаў міністраў СНД. У матэрыялах да іх сустрэчы адзначаецца, што Масква дае Мінску маштабную фінансавую дапамогу для падтрымкі беларускай эканомікі і стабілізацыі сацыяльна-эканамічнага становішча Беларусі ва ўмовах паэтапнага пераходу на рынкавыя прынцыпы ў двухбаковым гандлёвым супрацоўніцтве. І гэтыя лічбы вельмі не радуюць.

Па-першае, ёсць крэдыт на будаўніцтва АЭС, якая пакуль што, па словах Лукашэнкі, ніяк не ўбудоўваецца ў эканоміку Сінявокай — $10 мільярдаў. Астатняя запазычанасць Беларусі па расійскіх дзяржкрэдытах на сярэдзіну траўня 2018-га склала $6,3 мільярда і каля 60 мільярдаў расійскіх рублёў.

Акрамя таго, у 2016 годзе Савет Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця (ЕФСР пераважна складаецца з грошай Расіі) вырашыў даць фінансавы крэдыт Беларусі на $2 мільярды на фінансаванне праграм макраэканамічнай стабільнасці.

Такім чынам, без АЭС (!) мы вінныя Расіі каля $9 мільярдаў! І аддаваць іх давядзецца з працэнтамі. Чым расплачвацца будзем?

Прычым, Расія — краіна непрадказальная. Падавалася б, што ў іх урадзе змянілася ў сувязі з пераабраннем Пуціна? Нічога. Але, нягледзячы на гэта, пад фішкай «змены ўраду» яны парушаюць яшчэ не так даўно падпісаныя дамоўленасці.

Напрыклад, у сярэдзіне сакавіка Расія і Беларусь падпісалі дарожную карту па працэдуры зняцця абмежаванняў на пастаўкі ў Расію беларускай жывёлагадоўчай прадукцыі на 2018 год, у тым ліку — «малочкі». Зараз Рассельгаснагляд заявіў аб увядзенні з 6 чэрвеня часовых абмежаванняў на пастаўкі беларускай малочнай прадукцыі. Гаворка ідзе пра сыравіну, у тым ліку ў спажывецкай упакоўцы аб'ёмам больш за 2,5 літра. Ключавымі пазіцыямі Беларусі тут былі сухое малако, вяршкі і сыроватка. Як паведамляе расійскае ведамства, рашэнне прынятае «ў сувязі з неабходнасцю прыняцця мер у сувязі з паступленнем небяспечнай малочнай прадукцыі з Рэспублікі Беларусь у Расійскую Федэрацыю».

«Мы падпісалі ўсе дакументы і «дарожную карту», каб урэгуляваць гэтую праблему. Але сёння ў сувязі са зменай урада ў Расіі вялікая частка абавязацельстваў не выконваецца, хоць Беларусь сваю частку выконвае. І чакае, што ў бліжэйшы час новае кіраўніцтва таксама будзе выконваць гэтыя дамоўленасці», — абурыўся наш прадстаўнік у ЕАЭС Сяргей Сідорскі.

Больш за тое, Сідорскі адзначыў, што аб прынятым Рассельгаснаглядам рашэнні ён даведаўся толькі ўвечары 4 чэрвеня. Але так і не змог атрымаць адказ — хто яго, гэтае рашэнне, прыняў. «Буду ў Маскве, буду разбірацца», — падсумаваў Сідорскі. Паводле яго меркавання, гэта «рашэнне аднаго-двух чалавек, якія ў Рассельгаснаглядзе праводзяць уласную палітыку».

Так што праблемы «на Усходнім фронце» нас чакаюць даволі вялікія. І, мажліва, гэта сапраўды будзе «фронт» — толькі не вайсковы, а гандлёвы.

Супрацьпаставіць гэтаму фронту нешта ў эканамічным плане нам будзе складана. І не толькі з вышэйпададзеных паказчыкаў нашага доўгу. Напрыканцы траўня Мінфін зрабіў справаздачу «Аб стане дзяржаўных фінансаў Рэспублікі Беларусь у студзені-сакавіку 2018 года». І яна выклікае пэўныя непаразуменні.

Згодна са справаздачай, у нас усё добра. Рост ВУП у І квартале 2018 года склаў 5,1% у супастаўных цэнах. Цэны на спажывецкім рынку выраслі толькі на 2,5%. Праўда, гэты паказчык інфляцыі можна паставіць пад сумнеў, бо ён разлічваецца, зыходзячы з абмежаванага пераліку тавараў, якія выкарыстоўваюцца Белстатам для ацэнкі інфляцыі ў Беларусі.

Рост аб'ёму знешняга гандлю таварамі і паслугамі склаў 25,5%. Дадатковы плюс гэтага паказчыка звязаны з дасягненнем станоўчага сальда знешняга гандлю ў $320 тысяч USD, у той час як у мінулым годзе сальда было адмоўным (мінус $230 тысяч).

Але ў той жа час скараціўся памер прыбытку беларускіх прадпрыемстваў. Агульная сума чыстага прыбытку (пасля выплаты падаткаў) за І квартал 2018 года склала 1,9 мільярда рублёў, што на 25% менш аналагічнага перыяду мінулага года.

То-бок, рост ВУП у 5,1% — гэта праца «на склад», бо ВУП у нас па-ранейшаму лічыцца ад створанай, а не прададзенай прадукцыі.

Гэта ж пацвярджае яшчэ адзін паказчык — падаткі на дададзеную вартасць. Гэта той падатак, які закладаецца ў цану тавару ў краме. У І квартале 2018-га рост паступленняў ПДВ склаў 4,5%. Што не суадносіцца з ВУП 5,1%. То-бок, 0,6% тавараў І кварталу гэтага года асела на складах.

Калі Расія працягне закрываць ад нас свае рынкі, нам прыйдзецца вельмі складана. Плошчы складоў — не гумовыя.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Пётр Маркелаў

**Апазіцыйны актывіст «пратроліў» усю міліцэйскую сістэму. Вынікам гэтага «тролінгу» ёсць тое, што міліцыя павінна працаваць, а не ў інтэрнэце сядзець.**



Часта міліцыянты складаюць пратаколы на ўдзельнікаў несанкцыянаваных акцый на падставе публікацый фотаздымкаў у інтэрнэце. Маркелаў выклаў у сацсетку фотаздымак, дзе ён стаіць каля будынка МУС з плакатам «Заблакуйце 86.57.250.202». Гэтыя лічбы азначаюць IP-адрас сайта Міністэрства ўнутраных спраў. Такім чынам Маркелаў выказаў сваю нязгоду з блакіроўкай шэрагу інтэрнэт-рэсурсаў, у тым ліку сайту Грамадскага руху «Дзея», сайту ініцыятывы за дэкрыміналізацыю 328 артыкула Крымінальнага кодэкса Legalize Belarus.

Фота было апублікавана 31 мая, 1 чэрвеня Маркелава выклікалі на прафілактычную размову ў Маскоўскае РУУС. Там на актывіста склалі пратакол па ч. 3 арт. 23.34 КаАП Рэспублікі Беларусь (парушэнне парадку правядзення масавых мерапрыемстваў, учыненае паўторна на працягу аднаго года) і выправілі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў, дзе ён і правёў выхадныя.

Разгляд справы Маркелава адбываўся 4 чэрвеня ў судзе Маскоўскага раёна Мінска. І толькі там актывіст заявіў, што парадак не парушаў, ніякі плакат не трымаў, а фотаздымак у інтэрнэце — калаж, зроблены ў праграме «Фоташоп».

Справу Маркелава адправілі «на дапрацоўку». У міліцыянта Астаф'ева, які складаў пратакол, апроч калажу, не было ніякіх доказаў здзяйснення актывістам правапарушэння 31 мая.

Такім чынам, Маркелаў быў затрыманы адвольна, пазбаўлены свабоды незаконна, і мае права патрабаваць ад МУС кампенсацыі.

## Андрусь Горват



**Чалавек, які ўскалыхнуў беларускі літаратурны свет сваімі сялянскімі дзённікамі «Радзіва Прудок», вырашыў канчаткова выдаліць сваю старонку з сацыяльнай сеткі Facebook.**

«Я вырашыў, што ўсё-такі канчаткова выдалю гэтую сваю фэйсбучную старонку. Доўга сумняваўся, таму што фрэнды і лайкі — гэта сацыяльны капітал, хуткі спосаб вырашыць амаль любую праблему. Ну і — прадаваць кнігі. Выпадкова я змог пабудаваць паралельны свет, які працаваў лепей за рэальны. Але цяпер мне гэта не прыносіць кайф, як і цягнуць за сабой мех з ценямі», — напісаў ён.

«Я хачу сабе новую старонку, дзе не будзе фрэндаў, фанатаў, ворагаў, журналістаў, публічных заяў і літаратурнай разні. Там будуць толькі сябры. І спакойная цішыня, якую я люблю. Тая цішыня, у якую я пісаў пра мятлу дворніка і першую ноч у дзедавай хаце», — зазначае Горват.

«Я б мог ціха і незаўважна выдаліцца, але я зразумеў, што, калі сам не назаву прычыну, мне яе прыдумаюць іншыя. Ну там, напрыклад, не вытрымаў нацiску і спіўся, збег, з'ехаў у Ізраіль. Не ведаю, версій можа быць многа. Праўда — гэта найбольш гучна сказаная версія. Таму хачу сказаць сам. Ну і — люблю развітвацца. Але развітваюся не з усімі. Каго люблю, да таго вярнуся», — паведаміў Горват.

## Надзея Скардзіна

**Біятланістка Надзея Скардзіна абвясціла пра завяршэнне кар'еры. Пра гэта 33-гадовая спартсменка паведаміла ў эфіры тэлеканала «Беларусь 1».**



«Дзякуй Беларусі. Дзякуй усёй камандзе, што я адчула тут сябе сваім чалавекам. Усім дзякуй. Спадзяюся, што для вас я застануся вашай біятланісткай. Разумею, што некаторыя крокі трэба рабіць своечасова, а не зацягваць. Не магу знайсці матывацыю і сілы для штодзённых трэніровак. Самая галоўная прычына — я сапраўды хачу адпачыць. Вялікі дзякуй усім нашым заўзятарам і камандзе, у якой я знаходзілася 15 гадоў», — сказала Скардзіна.

Скардзіна — алімпійская чэмпіёнка ў складзе жаночай эстафетнай зборнай Беларусі ў Пхенчхане–2018 і бронзавы прызёр у індывідуальнай гонцы ў Сочы–2014. За Беларусь выступае з 2006 года. Бронзавы прызёр чэмпіянату свету (2011), чэмпіёнка Еўропы (2007), двухразовая чэмпіёнка Універсіяды (2007). У сезоне 2013/2014 правяла 111 дакладных стрэлаў запар, што з'яўляецца сусветным рэкордам.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Ад геапалітыкі да сянажных траншэй

**Калі ёсць жаданне — гэта палова поспеху, а другую палову, калі ўзнікне такая патрэба, можна забяспечыць з дапамогай «Віягры».**




13 лютага 2018 года міністр замежных спраў Нідэрландаў Халбе Зейлстра сышоў у адстаўку. Сярэднестатыстычнаму беларусу, чыё паняцце пра дабро і зло сфарміраванае не без дапамогі дзяржаўных СМІ, паверыць у абгрунтаванасць адстаўкі не так проста. Прапаную чытачам НЧ самастойна ацаніць неардынарнасць сітуацыі.

За дзень да адстаўкі міністр прызнаўся, што схлусіў пра сустрэчу з прэзідэнтам Расіі Уладзімірам Пуціным у 2006 годзе. Раней ён сцвярджаў, што падчас працы ў кампаніі «Royal Dutch Shell» пабываў на «дачы Пуціна» і чуў, як той назваў Беларусь, Украіну, Прыбалтыку і Казахстан часткамі «Вялікай Расіі».

Сур'ёзнае абвінавачанне, пагадзіцеся. Хлусня ж у дадзеным выпадку заключаецца ў тым, што ўдзельнікам сустрэчы на «дачы Пуціна» быў не дыпламат, а кіраўнік «Shell» Ерун ван дэр Вір, які пазней і перадаў кіраўніку галандскага МЗС словы расійскага прэзідэнта.

Падманваць кепска. Гэтую жыццёвую максіму нам даводзяць з ранняга дзяцінства. Спачатку бацькі, потым выхавацелі ў дзіцячым садку і педагогі ў школе. Напэўна, у патрэбны час «чара гэтая» не абмінула і амерыканскага хлопчыка Біла Клінтана, што стаў 42-м прэзідэнтам ЗША. Аднак неабходнасць заўсёды гаварыць праўду, і толькі праўду, была засвоена ім паверхоўна, што і стала прычынай для абвінавачвання ў ілжэсведчанні пад прысягай і пачатку працэдуры імпічменту ў 1998 годзе (сексуальны скандал Клінтан — Левінскі).

Імпічменту Клінтан здолеў пазбегнуць, але за ілжывыя паказанні прэзідэнт быў пазбаўлены ліцэнзіі на юрыдычную практыку і аштрафаваны на 90 тысяч долараў.

### Даходы змяншаюцца, падтрымка расце

Вось такая яна, заходняя дэмакратыя. У ЗША ілжэсведчанне караецца тэрмінам да 5-ці гадоў, у Вялікабрытаніі — да 7-мі. Таму прэзідэнту-дэмакрату Клінтану, можна лічыць, пашанцавала. Не пашанцавала дэмакратычнай партыі, якая прайграла сваім палітычным апанентам-рэспубліканцам прэзідэнцкія выбары ў 2001 годзе. За хлусню аднаго запацілі многія.

У Беларусі дэмакратыі не менш, чым на Захадзе, хоць шуфлем заграбай. А тое, што яна не пазбаўленая нацыянальнага каларыту, — дык гэта варта толькі вітаць, чым беларускія топ-чыноўнікі рэгулярна і займаюцца. Абмяжуюся прыкладам, запазычаным з інтэрв'ю міністра замежных спраў Уладзіміра Макея тэлеканалу «Euronews» (24 сакавіка 2018 года): «Немагчыма дасягнуць усяго і адразу. Немагчыма легчы спаць у Савецкім Саюзе, а прачнуцца ў цалкам еўрапейскай дэмакратычнай дзяржаве. Гэта не значыць, што мы не хочам вучыцца. Мы гатовыя вучыцца, у тым ліку вывучаць еўрапейскія "падручнікі"».

Наяўнасць жадання — палова поспеху. Другую палову, калі ўзнікне ў гэтым патрэба, можна забяспечыць з дапамогай «Віягры» ці яе беларускіх аналагаў. Эфект той жа, а выдаткаў у разы менш.

Выдаткаў будзе яшчэ менш, калі праводзіць выбары не з мэтай карэкціроўкі сацыяльна-палітычнага і эканамічнага курсу «беларускай мадэлі», а ў якасці своеасаблівых экзаменаў для органаў улады. Хто пры гэтым выступае ў ролі экзаменатара, а хто студэнта — назіральніку збоку зразумець няпроста. Фармальна экзамены здае ўлада, але здае яна іх не выбаршчыкам, а выбарчым камісіям, якія сама ж і фармуе.

Ці варта пасля гэтага здзіўляцца, што на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года ва ўмовах падзення рэальных наяўных грашовых даходаў насельніцтва на 5,6%, узровень электаральнай падтрымкі адзінага палітыка (АП), паводле звестак ЦВК, аказаўся рэкордна высокім: 1994 г. — 44, 82% у першым і 80,6% у другім туры, у 2001 г. — 75,65%, у 2006 г. — 82,6%, у 2010 г. — 79,65% і ў 2015 г. — 83,49%.

Вось такі ўзор нацыянальнай адэкватнасці! Даходы падаюць, а падтрымка на выбарах расце. Як пасля гэтага верыць заявам АП наконт прыярытэту эканомікі ў падтрыманні стабільнасці?!

Між іншым, паводле дадзеных НІСЭПД, вынікі прэзідэнцкіх выбараў у 2015 годзе для АП апынуліся рэкорднымі, але з адваротным знакам. Яго падтрымала 38% ад колькасці апытаных і 52% — ад колькасці тых, хто прыняў удзел у галасаванні (супраць 51% і 58% у 2010 годзе). Але НІСЭПД, як гэта неаднаразова і пераканаўча паказаў дырэктар Інстытута сацыялогіі НАН РБ прафесар Ігар Катляроў, усе свае вынікі атрымліваў «на каленках». Пра гэта неабходна памятаць і арыентавацца на правільныя лічбы беларускага ЦВК.

**У Сярэднявеччы жыхары беларускіх гарадоў выбіралі сабе кіраўнікоў у поўнай адпаведнасці з Магдэбургскім правам. Сёння за іх гэта робіць АП у поўнай адпаведнасці з Канстытуцыяй. Вось такое прасоўванне ў напрамку агульнаеўрапейскіх стандартаў**

### Чалавек-аркестр

Яшчэ адна цытата, якую запазычылі ў чарговага топ-чыноўніка. На гэты раз у віцэ-спікера ПП НС Валерыя Іванова (2009): «Дэмакратыя — гэта няпросты працэс. У Беларусі ўзяты курс на эвалюцыйную дэмакратызацыю грамадскага жыцця, і краіна істотна прасунулася ў напрамку агульнаеўрапейскіх стандартаў. Мы выразна ўсведамляем, што ў сферы рэалізацыі палітычных правоў нам яшчэ шмат трэба будзе зрабіць. Ідэальных дзяржаў не бывае. Але мы цвёрда маем намер ісці па гэтым шляху, і экспертная падтрымка Савета Еўропы вельмі спатрэбілася б».

З такой заявай «немагчыма спрачацца». Гэта не мае меркаванне. Гэта меркаванне аглядальніка «Савецкай Беларусі» Ігара Кольчанкі. Я і не спрачаюся. У Сярэднявечны жыхары беларускіх гарадоў выбіралі сабе кіраўнікоў у поўнай адпаведнасці з Магдэбургскім правам. Сёння за іх гэта робіць АП у поўнай адпаведнасці з Канстытуцыяй (Артыкул 119). Вось такое прасоўванне ў напрамку агульнаеўрапейскіх стандартаў. З ім даводзіцца змірыцца. А што паробіш? Ідэальных дзяржаў не бывае.

Аднак не ўсё так безнадзейна. Калі хто забыўся, «мы гатовыя вучыцца». На кніжных паліцах у кабінетах нашых начальнікаў стройнымі шэрагамі стаяць еўрапейскія «падручнікі». Дастаткова руку працягнуць, каб азнаёміцца з адным са шматлікіх азначэнняў дэмакратыі. Напрыклад, вось з такім: «Дэмакратыя — гэта інстытут прымусу дзяржавы да адказнасці».

Тым, хто сумняваецца і нязгодны, прапаную вярнуцца да пачатку «азбукі паліталогіі» і перачытаць гісторыю з адстаўкай міністра замежных спраў Нідэрландаў. Цытуючы Пуціна, ён няправільна ўказаў крыніцу інфармацыі — і гэта каштавала яму кар'еры.

У Беларусі ў якасці інстытута прымусу дзяржавы да адказнасці выступае АП, які са згоды большасці выбаршчыкаў узяў на сябе ролю своеасаблівага палітычнага чалавека-аркестра. Ён і на клавішных, і на духавых, і на ўдарных. І ўсё гэта адначасова. І ўсё гэта на прафесійным узроўні.

Геапалітыка, праблемы еўрапейскай бяспекі — няма праблем. Будаўніцтва сянажных траншэй для забеспячэння захаванасці кармоў — даручыць, праканcультуе і пракантралюе. Цытую: «Гэта — якасць кармоў, здароўе жывёл. Таму траншэі, якія непрыдатныя, трэба іх дастаць з зямлі і перарабіць, паставіць у патрэбным месцы. Там, дзе трэба (замест курганоў вашых і капцоў), пабудаваць новыя траншэі. У вас, Андрэй Уладзіміравіч (прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў. — рэд.), гэты і наступны год. У адваротным выпадку не трэба нарыхтоўваць травяністыя кармы там, дзе вы складаеце іх у капцы. Гэта — гніллё, яд для жывёлагадоўлі».

### Час хаваць запалкі

Згодна з прынцыпам Піцера, «у іерархічнай сістэме кожны індывід мае тэндэнцыю падняцца да ўзроўню сваёй некампетэнтнасці». Напрыклад, ваш добры знаёмы выдатна выконвае абавязкі брыгадзіра змены на фабрыцы па вытворчасці зубачыстак. У перспектыве яго чакае падвышэнне: майстар, старшы майстар, намеснік начальніка цэха, начальнік цэха і г.д. Але на нейкім узроўні, што цалкам натуральна, ён дасягне мяжы сваёй кампетэнцыі. Хутчэй за ўсё, гэта не стане падставай для паніжэння ў пасадзе, але на далейшым кар'ерным росце, з вялікай доляй верагоднасці, паставіць крыж.

Выснова: у сістэмах, што ўсталяваліся, усе кіраўнічыя ўзроўні занятыя некампетэнтнымі людзьмі. Гэта адзін з базавых прынцыпаў арганізацыі сацыяльных сістэм. Цалкам ад яго пазбавіцца яшчэ ні ў кога не атрымлівалася, але існуе механізм, які дазваляе мінімізаваць разбуральныя наступствы прынцыпу Піцера. Імя яму — дэмакратыя.

Як ужо адзначалася вышэй, дэмакратыя прымушае дзяржавы да адказнасці. Але гэтым яе станоўчыя функцыі не абмяжоўваюцца. Дэмакратыя — гэта своеасаблівы механізм натуральнага адбору, які дазваляе рэкрутаваць у палітычную эліту лепшых прадстаўнікоў грамадства.

Дэмакратыя не дазваляе эліце замкнуцца і ператварыцца ў аналаг савецкага палітбюро, склад якога вызначалі самі яго чальцы. Прытрымліванне такога курсу прывяло «Вялікую дзяржаву» да герантакратыі, да дзядоў ва ўладзе, што шамкалі і прыцмокваў, і наогул выжылі з розуму. Ад такіх у вёсках запалкі хаваюць, не тое, што чамадан з ядзерный кнопкай.

Не здзіўлюся, што наша «эвалюцыйная дэмакратызацыя» рухаецца па звыклай каляіне, што істотна павышае шанец ужо ў сярэднетэрміновай перспектыве назіраць масавае шамканне і прыцмокванне па ўсіх беларускіх тэлеканалах. Нездарма жадаючых вярнуцца ў СССР у нас заўсёды хапала.

# Ці маюць шанец на сацыялізацыю людзі з псіхічнымі парушэннямі?

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Ты можаш мець некалькі адукацый, шматгадовы досвед працы, сам сябе абслугоўваць і адазваць за свае ўчынкі. Але ты не можаш самастойна абіраць, як жыць, — гэта за цябе вызначае махіна дзяржаўных інстанцый. А ўсё таму, што табе паставілі дыягназ псіхічнага разладу.**




### «Хацелася б, каб на нас не ставілі крыж»

Аляксандра (імя зменена) з Брэста — гісторык па адукацыі, 12 гадоў яна выкладала філасофію, логіку, этыку, рэлігіязнаўства. Пасля атрымала другую вышэйшую адукацыю, але знайсці працу па новай спецыяльнасці не атрымалася: паўсюль патрэбны досвед. Да таго ж высветлілася, што Аляксандра пакутуе ад ментальнага разладу.

— У маі 2015 года мяне забралі ў псіханеўралагічны лячэбны цэнтр, паставілі дыягназ «паранойя» і далі інваліднасць 2 групы. Увесь гэты час я не працую, бо мне забаранілі ўладкоўвацца на працу. Цяпер я мару выздаравець, каб вярнуцца да ранейшага стану і працаўладкавацца, быць карысной грамадству, — распавядае жанчына.

Аляксандра прызнаецца: першы год было цяжка прымірыцца з тым, што яна аказалася нікому не патрэбнай. Псіхалагічны стан дайшоў да таго, што жанчына не магла прымусіць сябе выйсці з дому. З часам ёй удалося перамагчы гэта, і цяпер яна спакойна ходзіць у краму, бібліятэку, перамяшчаецца па горадзе. Аднак фізічна Аляксандра хутка стамляецца і мае праблемы з канцэнтрацыяй увагі. Нягледзячы на гэта жанчына перакананая, яна магла б вярнуцца да ранейшай працы.

— Мой участковы ўрач павінен звярнуцца ў МРЭК і пацвердзіць, што мой стан адэкватны і я магу працаваць. І тады праз службу занятасці мне могуць прапанаваць вакансію. Але патрэбна шмат узгадненняў, каб мяне дапусцілі да працы. Калі б мне далі свабоду выбару, я б шукала магчымасць працаўладкавання, хаця ў нас у Брэсце цяжка знайсці працу і здароваму чалавеку, — гаворыць жанчына.

Калі Аляксандра прайшла бухгалтарскія курсы ад цэнтра занятасці і тэлефанавала па абвестках, дзе патрабаваліся спецыялісты, ёй даваліся нават пачуць: «Вы што, хочаце, каб мы разам з вамі ў турму селі?»

— Хацелася б, каб у людзей, якія перанеслі пэўныя захворванні, была большая свабода працаўладкавання і выбару, каб на іх не ставілі крыж, — марыць жанчына.

### «Адчуваю сябе запатрабаванай, калі дапамагаю іншым»

— Пасля сыходу з працы ў мяне ўсё пайшло пад адхон, — распавядае іншая гераіня, Маргарыта (імя зменена).

У Маргарыты эпілепсія, у 30 гадоў жанчыне далі 3 групу інваліднасці, з якой яна не магла ўладкавацца на працу. Праз гэта ў яе пачалася дэпрэсія і іншыя праблемы са здароўем. Выратавала Маргарыту тое, што яе прывялі ў калектыў, дзе яна атрымала падтрымку.

— Да многага падштурхоўвае давер людзей, якія бачаць, што нават са сваім дыягназам ты — нармальны чалавек, і шмат на што здольныя. Я адчуваю сябе запатрабаванай, калі дапамагаю іншым людзям.

Пазней Маргарыта перанесла аперацыю на галаўным мозгу і атрымала 2 групу інваліднасці. І ўсё роўна вельмі хацела працаваць, абівала парогі цэнтра занятасці, але паўсюль казалі, што яна не падыходзіць: жанчыне нельга насіць цяжкасці, уздымацца на вышыню, у яе трэмар рук. «Хаця як я з ім сем гадоў змагла адпрацаваць за камп'ютарам і тры гады — сакратаром-рэферэнтам?» — здзіўляецца яна.

— Чаму мне не даюць магчымасці рэалізавацца? Я ж дзеяздольная, магу нешта рабіць і сама за сябе адказваць! — кажа Маргарыта.

Праўда, пасля стольких адштурхоўванняў жаданне шукаць працу пакрысе згасла, прызнаецца яна.

### Інваліднасць — не нагода для забароны на працу

Для герояў гэтага матэрыялу самым важным у працаўладкаванні з'яўляюцца не грошы. Для Аляксандры — гэта магчымасць быць патрэбнай людзям, для Маргарыты — давер. Праца для іх — у першую чаргу магчымасць самарэалізацыі і сацыялізацыі, якой яны пазбаўленыя праз свае дыягназы. Аднак дзяржаве нашмат прасцей змяшчаць людзей з ментальнымі разладамі ў спецустановы і напампоўваць іх лекамі, якія падаўляюць волю і наўрад ці садзейнічаюць выздараўленню, чым надаваць увагу праблемам іх самаадчування ў грамадстве.

Намеснік старшыні Беларускага таварыства інвалідаў, кіраўнік Офіса па правах людзей з інваліднасцю Сяргей Драздоўскі кажа:

— Інваліднасць увогуле не можа накладаць на чалавека забарону працаваць, і ў беларускім заканадаўстве няма наўпростай забароны на працу людзей з інваліднасцю. Ёсць распаўсюджанае меркаванне, што 1 і 2 групы інваліднасці — непрацоўныя, але гэта не так. Існуе вялікая колькасць абмежаванняў, з якімі трэба разбірацца. Напрыклад, медкамісія ўстанаўлівае, што з шэрагу прычын чалавек не можа працаваць на ранейшай пасадзе. У гэтым выпадку наша заканадаўства прадугледжвае, што ён павінен мець доступ да паслуг рэабілітацыі, якія дазволяць яму перакваліфікавацца з улікам яго інваліднасці, асвоіцца з новай рэчаіснасцю, у якой ён апынуўся па стане здароўя. Нашы наймальнікі не жадаюць бачыць людзей з псіхічнымі парушэннямі ў якасці супрацоўнікаў. Статыстыка сведчыць, што тыя, хто пагаджаюцца, — рэдкія выключэнні. Часцей за ўсё чалавек з псіхічным дыягназам на біржы працы раз за разам будзе атрымліваць адмовы.

Беларуская сістэма «заточаная» на больш простыя рашэнні, чым на сітуацыі, якія патрабуюць і спецыфічных рэабілітацыйных, і іншых падыходаў. Напрыклад, калі чалавек не можа аднавіць свае страчаныя функцыі, мы не маем права казаць яму: «З гэтага моманту ты можаш быць толькі дворнікам, і ўсё». Гэта гвалт у дачыненні да асобы. Дзяржава і грамадства павінны валодаць тым патэнцыялам рэабілітацыйных і сацыяльных службаў, які дазволіць чалавеку гарманічна ўліцца ў яго з улікам свайго новага стану. Але мы сутыкаемся з адсутнасцю дастатковай колькасці такіх сэрвісаў.

Часцей за ўсё людзі з псіхічнымі парушэннямі трапляюць на шэраг адмоў і бар'ераў, і ўрэшце губляюць матывацыю да пошуку працы. Паколькі пражыць на пенсію па інваліднасці немагчыма, яны пачынаюць выкарыстоўваць рэсурс сям'і. Калі і ён вычэрпваецца, чалавек губляе здольнасць самастойна пераадольваць жыццёвыя сітуацыі, у яго няма патэнцыялу для развіцця, і адзіны выбар, які яму прапануюць, — інтэрнат. Але гэта пастка. Стол у сталовай, ложак, дах над галавой — гэта, у любым выпадку, абмежаванні і чыннік дажывання, а не паўнавартаснага жыцця.

Можна і трэба змагацца з неправавымі адмовамі ў працаўладкаванні. Але кожную сітуацыю трэба разглядаць асобна, бо часта яны спалучаюцца з шэрагам медычных абмежаванняў. Знайсці адпаведную працу, адшукаць вакантнае месца, узгадніць найманне чалавека з ментальнымі парушэннямі з кіраўніцтвам і калектывам — гэта больш сацыяльная праблема, чым прававая.

З пункту гледжання беларускага права, людзі з псіхічнымі дыягназамі знаходзяцца ў пастаяннай дыскрымінацыі — і, фактычна, ніякай абароны ў іх няма. Праблему іх працаўладкавання спрабуюць вырашаць грамадскія арганізацыі. Напрыклад, існуе платформа CINGO, якая аб'ядноўвае ініцыятывы грамадзянскай супольнасці, што займаюцца сацыяльнай эканомікай. Але прававая сістэма ў адносінах да грамадскіх арганізацый, якія маглі б дапамагаць гэтым людзям, таксама вельмі слабая. Нашае права вырашае глабальныя праблемы элементарнага выжывання чалавека, а далей шанцаў і альтэрнатыў у выглядзе незалежнага пражывання вельмі мала. У якасці прыкладу можна прывесці хіба што сэрвіс Беларускай асацыяцыі дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам па суправаджэнні ў працаўладкаванні. Офіс па правах людзей з інваліднасцю праводзіць прававую асвету па гэтай тэме, а таксама спрабуе ўзмацніць у людзях з парушэннямі навыкі самаадвакатавання, і ў некаторых сітуацыях гэта дапамагае, калі сітуацыя датычыцца нескладаных форм інваліднасці.

**Працяг тэмы ў наступным нумары**


Дэпутат Аляксандр Лукашэнка на адной з сесій Вярхоўнага Савета, 1993 год. Крыніца: «Навіны», 1999 год

> **Можна без перабольшвання сцвярджаць: ніхто не верыў, што праца камісіі дасць нейкі плён. Большасць дэпутатаў, якія так лёгка згадзіліся з кандыдатурай Лукашэнкі, былі ўпэўненыя, што ў яго не хопіць арганізацыйных здольнасцяў і інтэлекту эфектыўна наладзіць працу. Аднак усе, хто так думаў, пралічыліся**

# Без кампрамісаў?

## Як 25 гадоў таму Лукашэнка пачаў крочыць да ўлады

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Лічбы на імгненне ледзь задрыжэлі, а потым застылі, адліваючы ярка-жоўтым колерам на неонавым фоне.**

**— Галасаванне адбылося, — сказаў старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч.**

У зале загучалі дружныя воплескі. І толькі тады народны дэпутат ад Шклоўскай выбарчай акругі №310 Магілёўскай вобласці Аляксандр Лукашэнка расціснуў кулакі і падняў галаву на табло.

| | |
|---|---|
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 235 |
| Галасавала «за» | 198 |
| Галасавала «супраць» | 4 |
| Усяго галасавала | 207 |
| Устрымалася | 5 |
| Не галасавала | 28 |
| Рашэнне прынятае | |

— Выбачайце, ну я так хацеў, каб Лукашэнка быў вялікім начальнікам, — пажартаваў Шушкевіч.

Дэпутаты дружна зарагаталі. І толькі зараз Лукашэнка адчуў, як шалёна стаміўся: ад няспыннага поту кашуля прыліпла да цела, нібы ён калоў дровы. Адразу ўспомнілася 9 чэрвеня 1990 года, калі яго забалатавалі на пасаду старшыні камісіі па аграрных пытаннях, прадуктах харчавання і сацыяльным развіцці сяла. Але ж зараз ён стаў старшынёй. Хай і часовай камісіі, але ж з такой назвай...

— Віншую, Саша! — старшыня камісіі па заканадаўстве Дзмітрый Булахаў, які сядзеў побач, працягнуў руку і тут жа войкнуў ад занадта інстынктыўна моцнага поціску рукі Лукашэнкі.

— І мае віншаванні! — Віктар Ганчар ззаду так моцна ляпнуў па плячы, што Лукашэнка падскочыў.

— Дзякуй хлопцы, дзякуй, — Лукашэнка паслабіў вузел цёмнага гальштуку з гарызантальнымі белымі палосамі. — Увечары чакаю ў сябе, у «Кастрычніцкай».

Нясцерпна хацелася піць. Пастаянна абціраючы хусткай потны лоб, Лукашэнка накіраваўся ў буфет. Ён сціснуў вусны, калі заўважыў, што за ім насмешліва назіраюць сябры парламенцкай апазіцыі БНФ.

На выхадзе да яго падскочылі Леанід Сініцын і Іван Ціцянкоў.

— Навошта табе гэта камісія, Саня? Колькі іх ужо было? — Іван Ціцянкоў раскрыў ад здзіўлення рот.

— Мы галасавалі супраць цябе, — коратка дадаў Сініцын.

— Як супраць мяне? — надышоў час здзівіцца Лукашэнку. — Я вам гэта ўспомню.

Сініцын і Ціцянкоў пагаядзелі адзін на аднаго і засмяяліся.

Дарма...

### Незвычайная камісія

4 чэрвеня 1993 года ў Вярхоўным Савеце Беларусі 12 склікання адбылася падзея, якая калі і была заўважана сродкамі масавай інфармацыі, то вельмі сціпла. У гэты дзень парламентарыі стварылі часовую камісію па вывучэнні дзейнасці камерцыйных структур пры рэспубліканскіх органах улады і кіравання. Старшынёй камісіі абралі дэпутата Аляксандра Лукашэнку. У склад камісіі ўвайшлі яшчэ восем дэпутатаў: Сяргей Антончык, Віктар Кучынскі, Міхаіл Марыніч, Франц Міньско, Валянцін Сарокін, Генадзь Лавіцкі (будучы шэф КДБ з лютага па ліпень 1994 года), Яўген Глушкевіч і Пётр Драбышэўскі.

Паводле першага пункта пастановы, чальцы камісіі пры выкананні сваіх службовых абавязкаў мелі права «входа и беспрепятственного доступа во все государственные и общественные органы, предприятия, учреждения и организации, а также коммерческие структуры, знакомиться в полном объёме со всей документацией, требуемой при проведении проверок, получать от должностных лиц и иных работников необходимые справки и письменные объяснения по вопросам их деятельности».

Такая фармулёўка дала падставу некаторым палітолагам і гісторыкам (Валерый Карбалевіч, Уладзімір Бажанаў) меркаваць пра асобны статус камісіі. Насамрэч, усё было даволі празаічна: такі статус быў прапісаны ў артыкуле 51 Часовага рэгламенту Вярхоўнага Савета ад 31 мая 1990 года. Розніца палягала толькі ў тым, што дадалі камерцыйныя структуры.

На пасаду старшыні Лукашэнка быў абраны, хутчэй за ўсё, спантанна. Парламенцкая большасць бачыла на чале камісіі Міхаіла Марыніча, але той нечакана даў самаадвод (у жніўні 1993 года ў інтэрв'ю «Магілёўскім ведамасцям» Лукашэнка заявіў, што Марыніч «струсил»). Лёгкасць, з якой дэпутаты пагадзіліся на кандыдатуру Лукашэнкі, тлумачыцца проста. Да гэтага часу ў Вярхоўным Савеце быў створаны шэраг часовых камісій, што называецца, па гарачых слядах.

> **Даючы інтэрв'ю, Лукашэнка пазіцыянаваў сябе як прынцыповы і бескампрамісны змагар з махлярамі і карупцыянерамі ды не шкадаваў гучных слоў і эпітэтаў. Ён запэўніваў, што нават калі будзе паміраць, то не сыдзе з намечанага шляху**

Узніклі камісіі па Чарнобылі, па ГКЧП, па прывілеях, па выкарыстанні псіхіятрыі ў палітычных мэтах. Існавала нават і камісія, якая павінна была заняцца пытаннем замежнага гандлю ікрой з боку хакейнага клуба «Дынама». Нягледзячы на грозныя і доўгія назвы, укладзеныя сродкі і людскія рэсурсы, каэфіцыент карыснага дзеяння гэтых камісій быў амаль нулявы: усё заканчвалася справаздачамі, аднак аніякія захады не рабіліся. Не гаворачы ўжо пра тое, што ніхто са службовых асобаў не быў прыцягнуты да адказнасці.

Таму, падтрымліваючы Лукашэнку (за яго, у тым ліку, галасавалі амаль усе прысутныя прадстаўнікі парламенцкай апазіцыі БНФ; Зянон Пазняк адсутнічаў, «супраць» галасаваў Сяргей Антончык, не галасаваў увогуле Валянцін Голубеў), большасць дэпутатаў лічыла, што нічога сенсацыйнага не адбудзецца. Стварэннем такой камісіі заканадаўцы мелі на мэце супакоіць грамадскую думку.

Праблема сапраўды была. Пры пераходзе на рынкавую эканоміку Беларусь, як іншыя рэспублікі былога СССР, сутыкнулася з такімі з'явамі, як карупцыя і арганізаваная эканамічная злачыннасць. Мела месца (канешне, не так, як у Расіі ці ва Украіне) сацыяльнае расслаенне грамадства. У СМІ ўсё часцей пачалі з'яўляцца публікацыі, прысвечаныя неза-

конным камерцыйным здзелкам (у прыватнасці па нафце), раскраданні вайсковай тэхнікі і маёмасці і гэтак далей.

Дэпутат ад апазіцыі БНФ Сяргей Антончык на ўсю краіну агучыў бязмежжа, якое рабілася ў саўгасе «Заслаўскі» Мінскага раёна: выдзяленне літаральна за капейкі зямель пад ворыва камерцыйным фірмам, якія будавалі катэджы на продаж і іншае. Такая сітуацыя, сцвярджаў ён, назіраецца па ўсёй краіне.

У маі 1993 года ў Беларусі адбылося першае заказное забойства. Ахвярай кілера стаў сталічны бізнесмен, кіраўнік «Белбізнесбанка» Аляксандр Ліснічук. Прычынай забойства былі, як выявілі следчыя, рознагалоссі з расійскімі калегамі па пытаннях гандлю нафтай.

Вярхоўны Савет як вышэйшы орган дзяржаўнай улады вымушаны быў рэагаваць — і стварыў такую камісію.

30 чэрвеня 1993 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета прыняў спецыяльную пастанову пра матэрыяльнае забеспячэнне працы камісіі Лукашэнкі. Апошняму на перыяд працы ўстанаўліваўся службовы аклад на ўзроўні старшыні пастаяннай камісіі, а чальцам камісіі — на ўзроўні акладаў чальцоў пастаянных камісіі, якія працуюць у парламенце на прафесійнай аснове. Да таго ж Лукашэнка атрымліваў права прыцягнуць да працы ў камісіі чатырох экспертаў, для чаго ствараўся адпаведны фонд аплаты працы.

## Новы венік мяце чыста

Можна без перабольшвання сцвярджаць: ніхто не верыў, што праца камісіі дасць нейкі плён. Большасць дэпутатаў, якія так лёгка згадзіліся з кандыдатурай Лукашэнкі, былі ўпэўненыя, што ў яго не хопіць арганізацыйных здольнасцяў і інтэлекту эфектыўна наладзіць працу. Аднак усе, хто так думаў, пралічыліся. Лукашэнка ўзяўся за справу настолькі энергічна, што менш чым праз месяц у «Звяздзе» (2 ліпеня 1993 года) з'явілася інтэрв'ю з Лукашэнкам пад назвай «Інфармацыя, якую мы зараз маем, можа выклікаць эфект выбухнуўшай бомбы».

Далей інтэрв'ю пайшлі літаральна адно за адным: «Я готов обвинить руководство республики в том, что оно не ведёт борьбу с коррупцией» у «Магілёўскіх ведамасцях» 25 жніўня 1993 года (інтэрв'ю браў сумнавядомы Ягор Рыбакоў); «Я таксама не герой» ва «Ударным фронце» 1 верасня 1993 года (інтэрв'ю брала Вольга Паўлава, аўтар кнігі «Шклоўскія страсці»); «Датэрміновыя выбары — не панацэя. Магчымы іншыя варыянты выйсця з крызісу» ў «Звяздзе» 18 лістапада (інтэрв'ю браў Валянцін Жданко).

Самае вялізнае інтэрв'ю Лукашэнкі было апублікавана 14 снежня 1993 года «Советской Белоруссией» (з Лукашэнкам гутарыла Людміла Маслюкова) пад назвай «Народ нашей республики перестал удивляться перевоплощению столоначальников в коммерсантов, роскошным виллам рядовых чиновников, поездкам семей управленцев по Парижам и Багамам. Мафиозные кланы и коррумпированные группировки существуют не только в Колумбии и на Сицилии. Сегодня они зарождаются на земле Беларуси». Былы кіраўнік урада Вячаслаў Кебіч у мемуарах («Искушение властью. Из жизни премьер-министра») сцвярджаў, што гэты нумар газеты карыстаўся велізарным попытам: яго быццам бы хапалі як кілбасу ў дэфіцытныя часы.

З гэтых інтэрв'ю чытачы маглі даведацца пра справы, якімі займалася камісія. Гэта і крадзеж у Магілёве 28 мільёнаў партыйных грошай (афіцыйна быў абвінавачаны былы кіраўнік справамі Магілёўскага абкама КПБ Аляксандр Сайкоў), і «шклоўская справа» (злоўжыванні кіраўніка шклоўскай міліцыі Анатоля Якімцова), і «бялыніцкая справа» (злоўжыванні кіраўніка бялыніцкай міліцыі Ігара Шчарбакова).

Неўзабаве Лукашэнка закрануў і больш буйныя фігуры. Напрыклад, старшыню праўлення Нацыянальнага банка Станіслава Багданкевіча (незаконныя крэдыты камерцыйным структурам; чатырохмільярдны крэдыт расійскай авіякампаніі «Віцязь»), высокага гродзенскага чыноўніка і знакамітага аграрыя Мечыслава Гіруця, былога кіраўніка Гродзенскай вобласці Дзмітрыя Арцыменю (забіты 20 верасня 1993 года), кіраўніка Мінска Аляксандра Герасіменку (нібыта ён з парушэннем заканадаўства прадаў камерцыйным структурам шраг аб'ектаў на праспекце Машэрава, у тым ліку і знакамітае кафэ «Рэчанька»), дэпутата Вярхоўнага Савета 12 склікання ад апазіцыі БНФ Сяргея Навумчыка («Нідзе не працуе, але набыў кватэру і машыну»).

Не пазбег абвінавачванняў і Станіслаў Шушкевіч. Старшыні Вярхоўнага Савета інкрымінавалася, што падчас яго візіту ў ЗША ў ліпені 1993 года нібыта з Білам Клінтанам была дасягнутая дамоўленасць пра размяшчэнне на тэрыторыі Беларусі 150 супрацоўнікаў ЦРУ.

У спісе Лукашэнкі значыліся і некаторыя прадпрыемствы. У Магілёўскай вобласці, напрыклад, гэта былі «Магатэкс» (Магілёўскі камбінат шаўковых тканін) і створаны на яго базе беларуска-партугальскі «Сапатэкс», а таксама «Бабруйскдрэў» (пра яго Лукашэнка ўспомніў падчас сустрэчы са студэнтамі ВНУ Магілёўскай вобласці 17 лістапада 2005 года). Часовая камісія абвінавачвала кіраўніцтва прадпрыемстваў, што яны свядома хаваюць ад дзяржавы валютную выручку, парушаюць правы працоўных, у тым ліку і па заработнай плаце.

Прадпрыемствы вымушаны былі абараняцца. У адным са снежаньскіх нумароў «Магілёўскай праўды» за 1993 год у артыкуле ішла гаворка, што «Магатэкс» не толькі дае працоўныя месцы і грошы, але і «прорубает окно в Европу». А прадстаўнікі — 17 чалавек (чальцы праўлення і кіраўнікі структурных падраздзяленняў) — «Бабруйскдрэва» ўвогуле падпісалі адкрыты ліст супраць Лукашэнкі. У лісце сцвярджалася, што Лукашэнка дзеля ўлады пойдзе на ўсё, што на прадпрыемстве ўсё ў парадку, захавана інфраструктура, а ў саўгасе Лукашэнкі «Гарадзец» нават зачынена сталовая для працоўных, «правление совхоза ютится в маленькой избушке, не к каждой ферме можно подойти без сапог».

У інтэрв'ю Паўлавай Лукашэнка заявіў, што камісія пачала вывучаць дзейнасць хакейнага клуба «Дынама», які нібыта гандляваў калійнымі ўгнаеннямі ў буйных памерах. Мы, пафасна казаў Лукашэнка, павінны далажыць беларускаму народу, што робіцца ў свеце вялікага бізнесу.

Даючы інтэрв'ю, Лукашэнка ўсяляк пазіцыянаваў сябе як прынцыповы і бескампрамісны змагар з махлярамі і карупцыянерамі ды не шкадаваў гучных слоў і эпітэтаў. Напрыклад, у інтэрв'ю Ягору Рыбакову, якога потым сам узнёс да нябёсаў, а пасля кінуў за краты, Лукашэнка запэўніваў, што нават калі будзе паміраць, то ні ў якім разе не сыдзе з намечанага шляху. Імкнучыся надаць сітуацыі асаблівы драматызм, Лукашэнка не выключаў і замаху на сябе.

Канешне, дзейнасць часовай камісіі прыйшлася даспадобы не ўсім. Лукашэнка зазнаў сапраўдны шквал крытыкі. Аднак, бадай, самай балючай для яго стала публікацыя ў «Народнай газеце» (13 кастрычніка 1993 года) артыкула пад назвай «Мафія бессмяротная, бо гэта камусьці трэба». У артыкуле Лукашэнка абвінавачваўся ў папулізме, у наўмысным нагнятанні абстаноўкі і гэтак далей. Прыводзілася і вядомая цытата Лукашэнкі з размовы з карэспандэнтам «Радыё Свабода»: «Наша беда, что мы привязаны к России с её бардаком».

Аўтарам артыкула быў Анатоль Гуляеў, у мінулым — уласны карэспандэнт «Сельской жизни», які ў 1989 годзе ўступіўся за кандыдата ў народныя дэпутаты Аляксандра Лукашэнку. Зараз Гуляеў бязлітасна крытыкаваў свайго даўняга пратэжэ. Прыпомніў Гуляеў і такі непрыемны для Лукашэнкі факт, як збіццё апошнім механізатара ў сваім саўгасе. Больш таго, сцвярджаў Гуляеў, моцную руку дырэктара нібыта паспыталі на сабе яшчэ шэсць працоўных «Гарадца». Паводле Гуляева, толькі дэпутацкі мандат выратаваў Лукашэнку ад крымінальнай адказнасці.

У адказ Лукашэнка ў той жа газеце (27 кастрычніка 1993 года) апублікаваў свой артыкул пад назвай «Здрада — яна, як і мафія, бессмяротная», у якім рашуча абверг усе абвінавачванні Гуляева.

З інтэрв'ю грамадскасць і чытачы даведаліся аб формах працы камісіі. Па-першае, інфармацыя грамадзянаў (у інтэрв'ю Паўлавай Лукашэнка заявіў, што ананімкі не разглядаюцца). Тыповы прыклад — заява на адрас камісіі Аляксандра Сайкова пра скрадзеныя партыйныя 28 мільёнаў рублёў. Па-другое, цесная сувязь з праваахоўнымі органамі. Лукашэнка паведаміў, што ў камісіі занятыя супрацоўнікі Упраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі МУС Міхаіл Сазонаў, Юрый Малумаў і Мікалай Карпіевіч, а таксама супрацоўнікі міністэрства юстыцыі Леанід Літвінчук і Алег Бажанаў. Па-трэцяе, самастойныя намаганні камісіі па здабычы інфармацыі. Яны ажыццяўляліся ў выглядзе лістоў, якія камісія дасылала ў тыя ці іншыя органы альбо да тых ці іншых асоб.

Напрыклад, у архіве захаваўся ліст камісіі за подпісам Лукашэнкі да Шушкевіча ад 5 жніўня 1993 года. Ліст з'явіўся як рэакцыя на выступ Шушкевіча 27 ліпеня з нагоды Дня Незалежнасці. Тады кіраўнік парламента казаў пра небяспеку саюза былой наменклатуры, разбагацелай на продажы дзяржаўнай маёмасці, і мафіёзных камерцыйных структур. Замест рынка ўласнікаў, сцвярджаў Шушкевіч, у Беларусі пануе наменклатурны бізнес, а выканаўчая ўлада не зацікаўленая ў прыватызацыі.

Лукашэнка, у прыватнасці, пісаў: «Сообщаю, что комиссия проделала определенный объем работы по организации ее деятельности, выявлению и изучению фактов коррупции в органах власти, государственных предприятиях, министерствах и ведомствах. Однозначный вывод: в основе коррупции — несовершенство законодательства, отсутствие контроля над исполнением законов, бездеятельность чиновников и многое другое. Центральным звеном негативных процессов стали различного рода коммерческие структуры. Я в целом поддерживаю Ваше выступление 27 июля и прошу прислать в комиссию информацию с тезисами. Комиссию интересуют конкретные факты, подтверждающие Ваши выводы, перечень должностных лиц, прежде всего, высшего эшелона власти, причастных к антиморальной и незаконной деятельности».

19 кастрычніка 1993 года шэф КДБ Эдуард Шыркоўскі накіраваў Лукашэнку інфармацыю пра тое, што на базе прадпрыемства «Гомсельмаш» створаны 20 камерцыйных структур, якія маюць льготы па арэндзе плошчаў. Таксама Шыркоўскі інфармаваў Лукашэнку пра парушэнні заканадаўства пры закупках зерня Асіповіцкім хлебакамбінатам.

Канешне, у камісіі паміж яе чальцамі было не ўсё гладка. Сяргей Антончык абвінавачваў Лукашэнку ў тым, што той «падмял» пад сябе ўсю працу камісіі. Генадзь Лавіцкі сцвярджаў, што камісія фактычна занялася апаратыўна-вышуковай дзейнасцю.

Як бы там ні было, вынікам дзейнасці стаў даклад, які быў зроблены Лукашэнкам пры дапамозе Маслюковай і камуніста Васіля Новікава. Зараз галоўная задача палягала ў тым, каб агучыць даклад і, пажадана, у прамым эфіры. Гэтая задача была вырашана ў тры этапы: спачатку даклад часовай камісіі 9 лістапада 1993 года быў уключаны ў парадак дня 13-й сесіі Вярхоўнага Савета (падтрымалі 247 дэпутатаў).

Потым Лукашэнку ўдалося нейтралізаваць свайго галоўнага праціўніка — Сяргея Антончыка, які імкнуўся ўключыць у парадак дня пытанні аб фінансаванні камерцыйнымі структурамі замежных паездак сваякоў чальцоў урада і аб адказнасці ўрада за стварэнне сістэмы ліцэнзавання, што разбурыла таварны і сыравінны рынак краіны. Лукашэнка патрабаваў зняць гэтыя пытанні, бо яны адлюстраваны ў ягоным дакладзе. Антончык адмовіўся, але атрымаў у сваю падтрымку толькі 99 і 90 галасоў адпаведна.

12 лістапада 1993 года вырашылася і галоўная праблема: 185 дэпутатаў (пры кворуме ў 174) зацвердзілі дзесяць пытанняў павесткі дня, якія прызначаліся для прамой трансляцыі. Сярод іх была і справаздача часовай камісіі.

А далей — зусім іншая гісторыя...




**Мікалай Ігнатовіч і Сяргей Антончык, 1991 год.** Фота Уладзіміра Сапагова

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ВЕНЕСУЭЛА. Новыя карыбскія піраты

У свой час Карыбскае мора было эпіцэнтрам сусветнага пірацтва, што знайшло адлюстраванне ў масавай культуры. Дастаткова ўзгадаць папулярную франшызу «Піраты Карыбскага мора». І вось славутыя карыбскія піраты сапраўды вяртаюцца. Усё праз эканамічны калапс у Венесуэле, які прымушае тубыльцаў неяк выжываць. У прыватнасці, венесуэльскія рыбакі вырашылі перакваліфікавацца ў піратаў. Толькі за апошні год адпаведныя міжнародныя арганізацыі зафіксавалі ў венесуэльскіх водах 71 інцыдэнт, што, паводле міжнароднага права, можна кваліфікаваць як пірацтва. Найбольш брутальнай была атака піратаў Венесуэлы на сурынамскіх рыбакоў у красавіку гэтага года, калі, па чутках, было забіта каля 12 чалавек. Трапляюцца і кур'ёзныя выпадкі. Напрыклад, год таму «карсары» з Венесуэлы атакавалі турыстычны аб'ект, які выкарыстоўвалі для здымак фільму з серыі «Піраты Карыбскага мора». У сувязі з ростам пірацкіх вылазак СМІ допускаюць перетварэнне Венесуэлы ў новае Самалі, што можа паскорыць умяшанне ў сітуацыю міжнароднай супольнасці.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. Выява кіраўніка — не для прыбіральні!

У Туркменістане забаранілі выкарыстоўваць газеты з выявай кіраўніка краіны ў якасці туалетнай паперы. Як піша апазіцыйная прэса, у адным з райцэнтраў усім участковым інспектарам паліцыі загадалі рабіць абходы прыбіральняў у прыватных дварах і выяўляць асобаў, якія выкарыстоўваюць газеты з выявай гаранта ў якасці туалетнай паперы. У выпадку выяўлення злачынства, уладальніку прыбіральні першы раз выносіцца афіцыйнае папярэджанне. Выданне «Альтэрнатыўныя навіны» паведамляе, што папярэджанні выносяцца ледзь не кожны дзень, паколькі з-за эканамічнага крызісу далёка не кожная сям'я гатовая частку свайго бюджэту выдаткаваць на туалетную паперу. Выяваў жа Гурбангулы Бердымухамедава туркменскія газеты і часопісы друкуюць вельмі шмат. У звычайныя дні на іх старонках можна налічыць мінімум 2–3 здымкі правадыра, а на святы — і таго больш. Паводле інфармацыі згаданага вышэй выдання, запэцканыя фотаздымкі Бердымухамедава ўчастковым прадпісана таксама шукаць на сметніках сярод бытавога смецця. За кожным сметнікам, быццам, нават замацаваны канкрэтныя асобы.

**Паводле туркменскай прэсы**

### ЗША. Амерыканцы мараць пра манарха

Як вядома, у свой час жыхары амерыканскіх калоній Англіі адмовіліся лічыць сябе падданымі брытанскай кароны і стварылі ЗША. Цяпер, падаецца, назіраецца адваротная тэндэнцыя. Усё больш амерыканцаў з'яўляюцца прыхільнікамі брытанскай манархіі. Гэта прадэманстравала і нядаўняе вяселле прынца Гары і амерыканскай актрысы Меган Маркл, што стала падзеяй нумар адзін у Злучаных Штатах. Інтарэс да вясельнай цырымоніі мае палітычны грунт. Паводле апытанняў, шматлікія амерыканцы непакояцца, што ў Вялікабрытаніі можа перамагчы рэспубліканскі лад. Прычым, колькасць аматараў брытанскай кароны за акіянам, як высвятляецца, нават большая, чым у самой Англіі. Незвычайны феномен эксперты тлумачаць шэрагам фактараў. Перш за ўсё адыгрывае сваю ролю тое, што амерыканцы не жывуць па законах каралеўства і сутыкаюцца з манархіяй выключна ў выглядзе нейкіх прыгожых рытуалаў на тэлевізійных экранах. Незвычайную праблему папулярнасці манархіі сярод янкі каментатары прапануюць вырашыць за кошт таго, каб перадаць шэраг пратакольных абавязкаў прэзідэнта ЗША нейкім вядомым асобам. Артысты, літаратары, прадпрымальнікі, маўляў, могуць замест гаспадара Белага дома ўдзельнічаць у публічных акцыях, што ўздыме аўтарытэт ідэяў рэспублікі.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Жанчыны і імігранты — на ровары!

У лонданскай мэрыі з'явіўся першы ў гісторыі камісар, які адказвае за правы пешаходаў і раварыстаў. Новы чыноўнік адразу выступіў з незвычайнай ініцыятывай. Прадстаўнік муніцыпалітэту, які кантралююць лейбарысты, пачаў кампанію за тое, каб жанчыны і прадстаўнікі малых этнасаў часцей выкарыстоўвалі ровары. Цяпер у сталіцы Англіі толькі 15 працэнтаў кабетаў, а таксама чарнаскурых, азіятаў і іншых нацменшасцяў катаюцца на роварах. У выніку слова «раварыст» у Лондане выклікае асацыяцыю з белым мужчынам сярэдняга ўзросту. Такая сітуацыя, як лічыць мэр Садзік Хан, не дазволіць вырашыць у сталіцы транспартнае пытанне, якое з кожным годам становіцца ўсё больш складаным. Выйсце, на думку лейбарыстаў, — у папулярызацыі ровараў. Праз 25 гадоў пры патрэбе паездкі ў 80 працэнтах выпадкаў лонданец павінен абіраць веласіпед, марыць гарадская адміністрацыя. З улікам велізарных памераў лонданскай агламерацыі, задача, шчыра кажучы, вельмі амбіцыйная.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Як кіраваць бясконца

Алег НОВІКАЎ

**На думку шэрагу экспертаў, Нурсултан Назарбаеў прыдумаў формулу, як можна кіраваць да канца жыцця і не выглядаць у вачах усяго свету дыктатарам. Таксама не выключаюць, што казахскае ноў-хаў зацікавіць іншых аўтарытарных лідараў краін СНД.**



Фота www.forbes.kz

Верхняя палата казахскага парламенту 31 мая прагаласавала за новую рэдакцыю Закона аб нацыянальнай бяспецы. Сутнасць зменаў палягае ў тым, каб надаць першаму кіраўніку краіны правa да канца жыцця ўзначальваць Савет бяспекі. Атрымаць такое права Елбасы, на думку сенатараў, варты «ў сілу яго (Назарбаева) гістарычнай місіі», а таксама «вельмі небяспечнай актуальнай сітуацыі ў свеце». Адначасова быў падкарэктаваны прававы статус Саўбезу. Рашэннем сенатараў ён з кансультацыйнага органу ператвораны ў канстытуцыйны.

Рэформа, на думку часткі незалежнай прэсы, сведчыць пра намер Назарбаева ўрэшце пакінуць пасаду кіраўніка краіны, якую ён займае аж з 1991 года. Аднак ніякага свята ў лагеры апазіцыі не назіраецца. Наўрад ці прыход у Акорду (рэзідэнцыю казахскага правадыра) новага чалавека нешта глабальна зменіць у краіне.

Дзякуючы папраўкам ад 31 мая, Елбасы, будучы пенсіянерам, захавае за сабой такія ключавыя функцыі, як «фарміраванне асноўных кірункаў у галіне нацбяспекі, абароны краіны і каардынацыі дзяржаўных органаў». Бязмежныя гарызонты паўнамоцтваў адкрывае перад Назарбаевым параграф новага закону, які патрабуе ад Саўбезу «абараняць унутрыпалітычную стабільнасць і нацыянальныя інтарэсы краіны на міжнароднай арэне». Але самае пікантнае, напэўна, тое, што новы кіраўнік краіны будзе ў Саўбезе шараговым сябрам, — як мінімум, пакуль жывы яго пажыццёвы старшыня — Нурсултан Назарбаеў.

Варта нагадаць, што раней у Казахстане быў прыняты Закон аб першым кіраўніку, адзін з блокаў якога тычыцца правоў Назарбаева пасля сыходу з палітыкі. Паводле гэтага закона, Назарбаеў захоўвае за сабой права высоўваць заканадаўчыя ініцыятывы, выступаць на пасяджэннях урада і ў парламенце. Адным словам, калі Елбасы калісьці і паўторыць сакраментальную фразу Ельцына: «Я стаміўся, я сыходжу», ніякага сапраўднага транзіту ўлады ў кране не адбудзецца.

Некаторыя з тых, хто асабіста ведае Назарбаева яшчэ з савецкіх часоў, лічаць, што Елбасы праз уласцівую яму асцярожнасць і недавер да іншых дакладна запатрабуе новых гарантый. На думку аднаго з ветэранаў казахскай кампартыі, што была, дарэчы, забароненая, у хуткім часе казахам варта чакаць феерверку законаў, якія будуць «вымываць» паўнамоцтвы прэзідэнта на карысць старшыні Саўбезу. Паводле яго словаў, не выключаны нават пераход да Канстытуцыі нямецкага ўзору, дзе прэзідэнт — выключна намінальна-сімвалічная фігура.

А вось маскоўскія эксперты кажуць, што казахскі досвед дакладна зацікавіць аўтарытарных кіраўнікоў іншых краін

**Назарбаеву не патрэбныя ніякія дадатковыя гарантыі на будучыню, паколькі пакідаць пасаду кіраўніка казахаў ён не збіраецца. Версія Закона аб Савеце нацбяспекі — усяго толькі чарговы сеанс падхалімства з боку атачэння Елбасы**

СНД. «Палітычныя нормы ў краінах, якія ствараюць Еўразійскі эканамічны саюз (ЕАЭС), так ці інакш прыходзяць да адзінага назоўніка. У гэтай сувязі магчымасць Нурсултана Назарбаева кіраваць Казахстанам пажыццёва можа стаць прыкладам для ўсіх іншых лідараў ЕАЭС. У тым ліку для Уладзіміра Пуціна. (...) У выпадку прыняцця ў Расіі закона, аналагічнага казахскаму, Пуцін зможа дэ-факта заставацца кіраўніком дзяржавы, не парушаючы фармальна ні заканадаўства, ні прынцыпаў дэмакратыі», — мяркуе выданне «Свободная пресса».

Праўда, ёсць і іншы пункт гледжання. Напрыклад, маскоўскі палітолаг Дзмітрый Жураўлёў лічыць, што казахская практыка занадта спецыфічная, каб быць экспартаванай у Расію або Беларусь. На яго думку, казахскі Закон аб нацбяспецы — гэта прадукт мясцовай палітычнай культуры. Накшталт таго, як у свой час кітайскія аматары брыджа абралі кіраўніком сваёй Федэрацыі старшыню КНР Дэн Сяапіна, які, натуральна, быў вельмі далёкі ад картачных гульняў. Маўляў, у Казахстане, як і ў кожным усходнім грамадстве, аўтаматычна спрацавала аксіёма: калі існуе Саўбез, кіраваць ім можа толькі Назарбаеў.

Да такой пазіцыі схіляюцца і некаторыя казахскія дысідэнты, якія таксама заклікаюць не шукаць у апошняй рэформе адзнак нейкай тонкай камбінацыі. Назарбаеву не патрэбныя ніякія дадатковыя гарантыі на будучыню, паколькі пакідаць пасаду кіраўніка казахаў ён не збіраецца. Новая версія Закона аб Савеце нацбяспекі — усяго толькі чарговы сеанс падхалімства з боку атачэння Елбасы. «Як быў нурсултанат, так і застанецца», — жартуюць на інтэрнэт-форумах.

Нарэшце, нельга не адзначыць вельмі арыгінальную тэорыю палітолага Бурына Нурхамедава. Ён сцвярджае, што Назарбаеў не на жарт захапіўся іранскай мадэллю, дзе існуе пасада аяталы: вярхоўнага духоўнага кіраўніка, які сочыць за свецкай уладай. Менавіта такім аяталой задумаў стаць Назарбаеў. На думку аўтара ідэі, «іранская мадэль дапаможа стабілізаваць казахскія галіны ўлады, якія трымаюцца выключна на асобе і аўтарытэце Елбасы».

Але ў адным практычна ўсе каментатары згодныя: з улікам палітычнай пасіўнасці насельніцтва, якое часцей думае пра эканамічныя пытанні, Назарбаеў можа пабудаваць усё, што заўгодна. Аднак што б ні пабудаваў Назарбаеў, пасля таго, як ён сыдзе ў лепшы свет, усё будзе перапісана наноў. І першае, чаго запатрабуюць казахі, — вярнуць палітычным катэгорыям нармальны лагічны сэнс, каб старшыня Саўбезу не быў вышэй за кіраўніка дзяржавы.



Сёння мы назіраем уздым старой як свет канспіралагічнай тэорыі. Усё больш людзей крытычна ўспрымаюць знешнюю інфармацыю, падазраючы, што за ёй стаіць нейкі варожы цэнтр, які хоча табой маніпуляваць

Фота www.islam.ru

# Шоў альбо рэальнасць?

Алег НОВІКАЎ

**Дваццаць гадоў таму на экраны кінатэатраў выйшаў фільм «Шоў Трумана», які, на думку некаторых культуролагаў і філосафаў, выпадкова ўзняў цэлы комплекс ключавых пытанняў нашай сучаснасці.**

На першы погляд, ніякай велізарнай сэнсавай нагрузкі фільм «Шоў Трумана» не мае. Лёгкая забаўляльная камедыя, у цэнтры якой — неверагодная гісторыя Трумана Бёрбанка, ролю якога бліскуча выканаў акцёр Джым Кэры.

Труман — звычайны чалавек, які жыве звычайным жыццём сярэднестатыстычнага амерыканца. Толькі герой Джыма Кэры не ведае, што за кожным яго рухам ад самага нараджэння назіраюць шматлікія схаваныя камеры, а ўсё яго жыццё перадаецца ў прамым эфіры ў серыяле, што так і называецца — «Шоў Трумана». Усё, што яго атачае, — па-майстэрску выкананыя дэкарацыі, а насельніцтва невялікага горада, дзе жыве Труман, — спецыяльна падабраныя акцёры. Не кажучы пра тое, што і сам горад знаходзіцца пад аграмадным купалам у нейкай яшчэ больш вялікай студыі.

Як і патрабуе сюжэт фільму, у нейкі час да галоўнага героя нарэшце пачынае даходзіць, чаму вакол яго так шмат супярэчнасцяў: пачынаючы ад тэлевізійнага сафіта, што загадкава зваліўся аднекуль зверху, і заканчваючы неверагодным бытавым парадоксам — усе кветкі з гораду, дзе жыве Труман, прададзеныя на некалькі месяцаў наперад.

Праз нейкі час Труман разумее, што жыве ў велізарным тэлевізійным павільёне, з якога трэба бегчы. Пасля шматлікіх няўдалых спробаў уцёкі нарэшце атрымліваецца. Стваральнікі «Шоў Трумана» вымушаныя абвясціць пра заканчэнне серыялу. У той жа час за дзвярыма павільёну Трумана, натуральна, чакае каханне. Адным словам — татальны хэпі-энд.

Але так было толькі на экране. У жыцці з «Шоў Трумана» хапала праблемаў. Пачнём з таго, што ў апошнім эпізодзе фільму гледачам паказваюць двух тэлегледачоў, якія са слязамі на вачах сочаць за прыгодамі Трумана, каб у выніку прызнаць — «Шоў Трумана» скончылася. Літаральна праз пару секунд яны забываюцца пра прыгоды Трумана і пачынаюць лянотна спрачацца: што цяпер глядзець па тэлевізары? У некаторых гэта сцэна выклікала смех, а ў іншых — жах. Па сутнасці, размова аматараў тэлебачання ў самым прымітыўным выглядзе даносіла тагачасныя думкі некаторых філосафаў: ці не з'яўляемся мы, як той Труман, акцёрамі ў нейкім серыяле?

Яшчэ напрыканцы 1980-х гадоў французскі філосаф Жан Бадрыяр заявіў, што з дапамогай лічбавых і візуальнай медыятэхналогій свет уступіў у «фазу сімуляцыі», калі ўсё, што мы бачым, — гэта ілюзія. У літаратуры адначасова паўстаў жанр «кіберпанку» пра магчымасць штучнай жыццёвай прасторы, якая настолькі рэальная, што мы больш не можам дыферэнцаваць, дзе «рэальнасць», а дзе «віртуальнасць».

Праз год пасля рэлізу «Шоў Трумана» на экран выйшла «Матрыца» братоў Вачоўскі, якая давяла тую ідэю да кульмінацыі. У «Матрыцы» ўвесь наш свет — усяго толькі візуальная карцінка кампутарнай праграмы. На справе ж на Зямлі ўжо даўно кіруюць машыны, якія вырошчваюць людзей на спецыяльных плантацыях і выкарыстоўваюць у якасці крыніц энергіі.

Хутка ў публічных дэбатах паўстаў цэлы накірунак. Яго ўдзельнікі спрачаюцца: ці сапраўды лічбавыя тэхналогіі дазваляюць фізічна або ментальна выключыць чалавека (а можа і вялікі калектыў) з рэальнасці?

Праз 20 гадоў пасля прэм'еры «Шоў Трумана» тыя дэбаты не толькі не страцілі актуальнасці, але і, дзякуючы інтэрнэту, выйшлі на новы ўзровень. Сёння любая сацыяльная сетка — па сутнасці, алюзія на канцэпцыю «Шоў Трумана». Як глядач шоў ты можаш сачыць у тым жа Facebook за жыццёвым шляхам нейкага чалавека, пачынаючы з часоў яго дзяцінства (прычым, карыстальнік сам выкладае туды адпаведныя выявы). Існуюць і ананімныя рэжысёры гэтага шоў. Праз інфармацыйныя ўкіды пра людзей, якія зрабілі кар'еры, — Дэвід Цукерберг, Ілан Маск, Біл Гейтс, — нам навязваюць рэцэпты паводзінаў і індывідуальнага шчасця.

Аднак ёсць і адваротны эфект. Яшчэ па слядах пракату «Шоў Трумана» псіхолагі сутыкнуліся з новым тыпам кліентаў. На хвалі папулярнасці карціны некаторыя гледачы раптам адчулі тое ж пачуццё, што і ў нейкі час Труман Бёрбанк. Пацыенты скардзіліся, што, як ім падаецца, яны штучна выключаныя з рэальнасці. Хутка ў псіхалогіі з'явіўся нават тэрмін — «Падман Трумана», што апісвае падобную хваробу. Такіх «хворых» у нас час становіцца ўсё больш — дзякуючы інтэрнэту, дзе кожны адчувае сябе галоўным экспертам па ўсіх праблемах.

У выніку, як пішуць культуролагі, сёння мы назіраем уздым старой як свет канспіралагічнай тэорыі. Усё больш людзей крытычна ўспрымаюць знешнюю інфармацыю, падазраючы, што за ёй стаіць нейкі варожы цэнтр, які хоча табой маніпуляваць. Такая паранаідальная ўстаноўка патэнцыйна робіць людзей прыхільнікамі пратэстных палітычных рухаў, што пашырае базу падтрымкі антысістэмных і ксенафобскіх палітыкаў.

Так што «Шоў Трумана» — гэта яўна больш, чым камедыя.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Рычард Грэнэл



Новы пасол ЗША ў Германіі ледзь паспеў перабрацца ў Берлін — і адразу выклікаў скандал з самымі непрадказальнымі наступствамі.

Аказваецца, Грэнэл, як ён сам прызнаўся ў прэсе, не толькі прадстаўляе адміністрацыю Трампа ў ФРГ, але і павінен каардынаваць стварэнне нейкага рэгіянальнага інтэрнацыяналу праамерыканскіх палітсілаў у выглядзе кансерватыўных партый. Больш за тое, гэтыя партыі павінны выступаць супраць цяперашняга палітычнага класа.

Для дыпламата — гэта вельмі смелая заява. Як вядома, дыпламатам катэгарычна забаронена ўмешвацца ва ўнутрыпалітычныя працэсы ў краіне знаходжання. Таму не дзіўна, што федэральны ўрад Меркель выказаў афіцыйны пратэст на адрас ЗША. Аднак для нямецкіх левых партый гэтага мала. Прынамсі ў кіраўніцтве сацыял-дэмакратаў (SPD) патрабуюць больш жорсткай рэакцыі на дэмаршы Грэнэла. Па словах аднаго з лідараў SPD Марціна Шульца, амерыканскі пасол паводзіць сябе як «каланіяльны афіцэр». Іншы апаратчык-эсдэк кажа, што Грэнэл нават не хавае, што яго мэта —ператварыць еўрапейцаў у васалаў Трампа. Агульная выснова аўтараў падобных заяў: Грэнелу не месца ў Берліне.

Застаецца пачакаць, каб даведацца, ці рызыкне МЗС ФРГ выслаць пасла ЗША, што будзе, напэўна, самым буйным скандалам у амерыкана-нямецкіх адносінах з часоў Другой сусветнай вайны.

### Якаў Якубовіч



Кіраўнік адной з муніцыпальных акругаў Масквы, актывіст ліберальнай партыі «Яблоко», на думку многіх, моцна дыскрэдытаваў антыпуцінскую апазіцыю сваім рашэннем не ўдзельнічаць у выбарах мэра Масквы.

Рашэнне было прынятае пасля таго, як у маскоўскі філіі «Яблока» прайшлі праймерыз прэтэндэнтаў у кандыдаты на выбары сталічнага мэра, на якім і перамог Якубовіч. Не паспелі абвясціць вынікі праймерыз, як Якубовіч раптам перадумаў. Замест сябе ён прапануе вылучыць Сяргея Мітрохіна, з якім, у асноўным, і змагаўся на праймерыз. Адмову ад балаціроўкі Якубовіч тлумачыць праблемай «муніцыпальнага фільтра» (неабходнасць для кандыдата атрымаць пэўную колькасць подпісаў ужо дзеючых дэпутатаў). Па словах Якубовіча, ён нечакана зразумеў, што неабходнай колькасці подпісаў яму не сабраць. «У Мітрохіна ж атрымаецца дасягнуць жаданага выніку», — лічыць пераможца праймерыз.

Аднак у такое тлумачэнне многія не вераць, падазраючы, што мела месца кулуарная дамова. Некаторыя нават ужо назвалі Якубовіча «другім Бабчанкам», які, маўляў, імітаваў удзел у праймерыз. У любым выпадку, фармат удзелу «Яблоко» на восеньскіх выбарах мэра незразумелы, і наўрад ці пошук варыянтаў гэтага фармату абыдзецца без новых скандалаў.

### Пабла Іглесіяс



Партыя Podemos, генсекам якой з'яўляецца палітык, паўстала не так даўно як альтэрнатыва старым іспанскім партструктурам. Гэта таксама тычыцца і новых этычных патрабаванняў да яе лідараў.

Таму не дзіўна, што шмат каму не спадабалася навіна пра вілу коштам у 600 тысяч еўра, якую днямі Іглесіяс і яго сяброўка таемна набылі. Крытыкі Іглесіяса пабачылі тут відавочную супярэчнасць паміж антыкапіталістычнымі заявамі генсека і яго ўчынкамі ў паўсядзённым жыцці. Прыгадалі ўладальніку вілы і тое, што менавіта крытыка стылю старых палітыкаў, якія набывалі багатую нерухомасць, заўжды была фішкай Podemos. Па сутнасці, скандал на гэтай глебе з удзелам партыйнага барона кансерватыўнай Народнай партыі (PP) у 2014 годзе і стаў штуршком для дэбатаў пра неабходнасць новай партыі, па выніках якіх і нарадзілася Podemos.

Сам Іглесіяс кажа, што ўзяў крэдыт, і ўвогуле шукаў нейкае месца для сваіх дзяцей, якіх вось-вось народзіць яго сяброўка.

Скончылася ўсё беспрэцэдэнтным унутрыпартыйным рэферэндумам, на якім 68 працэнтаў удзельнікаў выказаліся за тое, каб кіраўніцтва партыі мела права набываць нерухомасць. Аднак галоўны іспыт для Іглесіяса, думаецца, яшчэ наперадзе. На мінулым тыдні ў адстаўку пайшоў міністр Марыяна Рахой і яго кансерватыўны кабінет. Хутчэй за ўсё, у Іспаніі непазбежныя датэрміновыя выбары, на якіх тэма вілы Іглесіяса дакладна будзе выкарыстана канкурэнтамі Podemos.

# Як звужалася ахоўная зона Курапатаў ля «Бульбаш-холу»

Марат ГАРАВЫ

**Прапануем нашым чытачам кароткую гісторыю звужэння ахоўнай зоны Курапатаў ля рэстарацыі «Паедзем, паядзім», якая мела першапачатковую назву «Бульбаш-хол».**

1. Таямніца Курапатаў была адкрытая беларускімі археолагамі пад кіраўніцтвам Зянона Пазьняка яшчэ ўвесну 1988 года. Для ўзяцця Курапатаў пад ахову дзяржавы айчыннымі археолагамі з Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі на чале з доктарам гістарычных навук Георгіем Штыхавым былі вызначаныя межы помніка археалогіі.
2. «Месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій 30–40-х гадоў XX стагоддзя ва ўрочышчы Курапаты» атрымала статус нерухомай матэрыяльнай гістарычна-культурнай каштоўнасці міжнароднага значэння ў 1993 годзе, калі Міністэрства культуры зацвердзіла скарочаныя (у параўнанні з вызначанымі навукоўцамі) межы помніка. Пастановай Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 10 красавіка 2003 года Курапаты ўнесены ў «Дзяржаўны спіс гістарычна-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь».

Паводле заканадаўства, Курапаты мусяць мець яшчэ і зоны аховы, якія рэгламентуюць рэжымы ўтрымання тэрыторыяў помніка і прылеглых абшараў. Аднак толькі праз 11 гадоў урочышча атрымала адпаведныя зоны аховы. Яны складаюцца з наступных зонаў: ахоўнай, дзе новае будаўніцтва дазволена выключна для патрэбаў Курапатаў, рэгулявання забудовы, дзе забаронена ўзвядзенне прамысловых прадпрыемстваў і шматпавярховікаў, а таксама аховы ландшафту.

3. У 2003 годзе па заказу Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій архітэктары Таццяна Косціч і Вольга Кукуня са сталічнага інстытуту «Праектрэстаўрацыя», зыходзячы з сусветнага вопыту ў падыходзе да помнікаў такога ўзроўню, распрацавалі гістарычна абгрунтаваны праект ахоўнай зоны Курапатаў з мемарыялізацыяй урочышча.

На думку аўтараў праекту, мяжа новай забудовы павінна праходзіць на адлегласці не менш за 300 метраў ад Курапатаў. Сваю пазіцыю архітэктары матывавалі неабходнасцю максімальнага захавання ад антрапагеннага ўціску сістэмы гістарычнай планіроўкі з былымі дарогамі, ландшафтам і краявіднымі кропкамі, што фарміруюць старадаўняе асяроддзе і атачэнне гістарычна-культурнай каштоўнасці.

4. 20 траўня 2003 года праект быў аднагалосна ўхвалены сябрамі Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады па пытаннях гістарычна-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры.
5. Аднак насуперак рашэнню рады пастановай №15 ад 12 траўня 2004 года Мінкультуры значна скарацiла — да 120 метраў — прапанаваную спецыялістамі «Праектрэстаўрацыі» шырыню ахоўнай зоны помніка з яго заходняга боку. Свае дзеянні чыноўнікі матывавалі тым, што праект Косціч і Кукуні не адпавядае існуючым нормам, але так і не змаглі адказаць на пытанне, якім канкрэтна.
6. У 2012 годзе СТАА «БелРэстІнвест» пры ўзвядзенні каля Курапатаў аб'екту прыдарожнага сервісу з першапачатковай назвай «Бульбаш-хол» самавольна і незаконна парушыла межы ахоўнай зоны каштоўнасці, дзе на плошчы 1,1 гектара пабудавала частку будынку рэстарацыі, чатыры дамкі модульнага тыпу і дзіцячую пляцоўку.

І хоць 27 лістапада 2012 года Генеральная пракуратура накіравала Мінскаму аблвыканкаму адпаведнае прадстаўленне аб неабходнасці цягам месяца ліквідаваць гэтыя парушэнні заканадаўства, вышэйназваныя пабудовы стаяць і да гэтага часу пад новай назвай — рэстарацыя «Паедзем, паядзім».

7. Міністэрства культуры сваёй пастановай №70 ад 1 снежня 2014 года зацвердзіла зменшэнне ахоўнай зоны Курапатаў з заходняга боку на 1,1 га, дзе якраз і былі самавольна і незаконна збудаваныя вышэйпералічаныя аб'екты.

У выніку шырыня ахоўнай зоны з заходняга боку Курапатаў скарацілася да 50 метраў.

І апошняе. На меркаванне актывістаў грамадзянскай ініцыятывы «Эксперты ў абарону Курапатаў», Міністэрства культуры стварыла дадатковыя цяжкасці для грамадзянаў, якія сутыкаюцца з азначэннямі «зоны аховы» і «ахоўная зона», што звычайна ўжываюцца разам. Нават тым, хто часцяком карыстаецца тэрміналогіяй у галіне аховы спадчыны, патрабуюцца немалыя і непатрэбныя высілкі, каб не пераблытаць адно паняцце з другім. Дык навошта было гэта рабіць?

# Астаповіч: «Рэстаран

Алесь КІРКЕВІЧ

**Якія ахоўныя межы ў Курапатаў? Ці можа месца рэпрэсіяў стацца месцам згоды, альбо гэта месца перманентнага канфлікту? На нашы пытанні пра Курапаты, Стары замак у Гродне ды іншыя аб'екты спадчыны адказвае старшыня Рэспубліканскага савета Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч.**

### «У Курапатаў самыя шыкоўныя ахоўныя межы ў краіне»

***— Памятаеце мінулагодні канфлікт вакол Курапатаў? Як вы яго ацэньваеце?***

— Асаблівай небяспекі мемарыялу ў мінулым годзе не было. Але ў тым выпадку былі парушэнні падчас аўкцыёну па



Антон Астаповіч

вылучэнні зямельнага ўчастку яшчэ ў 2013 годзе. Падчас яго не ўлічылі, што на той час зямля знаходзілася ў межах зонаў аховы гісторыка-культурнай каштоўнасці. Паўтаруся, пагрозы для пахаванняў не было, таму заявы, маўляў, гэта будоўля на касцях, былі неабгрунтаванымі. Пахаванняў там не магло быць: у 1930-х на месцы намётавага лагеру і будоўлі былі агароды колішняй вёскі Зялёны Луг.

***— Што думаеце пра сёлетні канфлікт вакол «Бульбаш-холу», які пераўтварыўся ў «Паедзем, паядзім»?***

— Яшчэ напярэдадні будаўніцтва «Бульбаш-холу» ў 2010-м было дапушчанае парушэнне: зямельны ўчастак часткова заходзіў у зону аховы. Большая ж частка апынулася ў зоне рэгуляванай забудовы. Гэты момант і даў магчымасць Генпракуратуры напісаць прадпісанне на спыненне там працаў. У зону аховы ўвайшлі два модульныя часовыя збудаванні, без стацыянарнага падмурку і правядзення камунікацыяў. Калі б у інвестара былі нармальныя юрысты, яны б вельмі лёгка аспрэчылі прэтэнзіі пракуратуры. Адзінае, што будынкі не былі ўзгодненыя і з'явіліся па-за межамі праекту.

***— А што наконт асноўнага будынку рэстарану?***

— Сам будынак рэстарану ў ахоўную зону не ўваходзіў: адзін з яго рагоў роўненька сядаў на мяжу ахоўнай зоны 2004 года — метр у метр. Таму, калі Вінцук Вячорка ў адной з дыскусіяў выказаўся, маўляў, рэстаран улазіць у зону аховы — ён не мае рацыі. Зараз жа цалкам тэрыторыя былога «Бульбаш-холу» ўваходзіць не ў ахоўную зону, але ў зону рэгуляванай забудовы. Для гэтай зоны аб'ект прымальны і нічога не парушае.

***— Ці можа гэта быць рэстаран?***

— Ніякімі заканадаўчымі нормамі гэта не рэгулюецца. Актывісты вельмі любяць апеляваць тэрмінам «месца масавай згубы»... З прававога пункту гледжання, гэта некарэктна. Аб'екты такога кшталту падзяляюцца на могілкі, археалагічныя аб'екты і гісторыка-культурныя каштоўнасці. Археалагічным аб'ектам Курапаты назваць нельга, бо для гэтага патрэбны ўзрост — 120 гадоў.

Можна было пайсці шляхам надання статусу могілак, але гэтага ніхто не ініцыяваў. Таму Курапаты маюць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. Ніякага статусу «месца ахвяраў рэпрэсіяў» ці «месца ахвяраў вайны» ў нарматыўных дакументах няма!

***— То бок, паводле закону, у сёлетняй сітуацыі ўсё ў норме?..***

— Паводле закону — так. Калі казаць пра маральны фактар, у мяне адразу ўзнікаюць пытанні: чаму толькі Курапаты? Тэрыторыя Брэсцкай крэпасці дагэтуль усеяная косткамі чырвонаармейцаў, расстраляных палонных, мірных жыхароў, там быў шталаг... Але я не бачу пратэстаў ля рэстарану «Цытадэль», які стаіць на іншым баку Мухаўца — на тэрыторыі Кобрынскага ўмацавання. Я не бачу пратэстоўцаў побач з Ямай у Мінску, дзе ляжыць больш за 50 000 вязняў гета. Гэта ж праспект Пераможцаў, вакол адны кабакі! Чым ахвяры нацызму горшыя за ахвяраў камунізму?..

Калі вярнуцца да мінулагодняга пратэсту, дык там далучыліся мясцовыя жыхары, якія не хацелі ўшчыльнення, а на Курапаты ім было начхаць. Тады акурат супала некалькі фактараў — і пратэст меў плён. А зараз... Глядзіце, каб гэта не прывяло да чарговага перагляду межаў ахоўнай зоны Курапатаў.

Могуць зменшыць ахоўныя зоны — і гэта будзе законна. Як могілкі, так і археалагічныя аб'екты ў нас могуць мець ахоўную зону ў 50 метраў. У Курапатах 50 метраў — гэта мінімум, які акурат падыходзіць да былога «Бульбаш-холу». У іншых месцах шырыня даходзіць да 300 метраў! У Курапатаў, без перабольшвання, самыя шыкоўныя ахоўныя межы ў краіне! І Трасцянец, і Брэсцкая крэпасць — паўсюдна ахоўная мяжа супадае з межамі помніка, без усялякіх люфтаў і адступленняў. Таму, калі некаму не падабаецца прысутнасць рэстарану, хай прыдумаюць шэраг хадоў, каб наўпрост кліенты туды не ішлі.

***— Напрыклад?***

— Напрыклад, на Заходняй мяжы, якая выходзіць да былога «Бульбаш-холу», пастаўце вялізны яскравы крыж, каб усе наведнікі бачылі. Можна там і чэрап з касцямі выявіць — гэта сімвал Галгофы і пакутаў Хрыстовых. Хай наведнікі глядзяць і думаюць, ці трэба ім там снедаць.

Гэта не бардэль усё ж такі і не кабак з саўнамі і більярдам, гэта — прыдарожны сервіс. Са свайго вопыту, а я шмат езджу з экскурсіямі і экспедыцыямі, гэты аб'ект будзе ўбытачным. Гэта ж не траса Мінск—Масква, а кальцавая дарога. Хто, скажыце, едучы на працу ці з працы будзе туды заязджаць? Ці з гораду адмыслова нехта паедзе?.. Месца не антуражнае, паміж дзвюх дарогаў: з аднаго боку запраўка, з іншага — Курапаты... Ды яно толькі праз эканамічную логіку само памрэ. Паглядзіце, збанкрутуе без усялякіх пратэстаў.

***— Ці ёсць нейкі пазітыўны сцэнар для Курапатаў?***

— Я, на жаль, перакананы: што б ні адбывалася вакол Курапатаў — гэта заўжды будзе выклікаць у шэрагу грамадскіх актывістаў негатыў. Курапаты — той аб'ект, дзе нехта заўжды будзе рабіць сабе палітычны піяр. Мне вельмі непрыемна бачыць, калі на тэме Другой сусветнай вайны спекулюе ўлада, але аналагічную сітуацыю з тэмай 1937-га года я бачу з боку іх апанентаў. Гэта манапалізацыя і «продаж» памяці. Колькі было бруду, калі Якубовіч ініцыяваў мемарыял у Курапатах?.. Мне гэта балюча і непрыемна. Таму я і не хачу ўлазіць туды: для мяне Курапаты такая ж каштоўнасць, як і Гарадзенскі замак.

### «Не бывае рэстаўрацыі без знішчэння»

***— Калі казаць пра Стары замак у Гродне, там меркаванні таксама падзяліліся: ці гэта аднаўленне замку Баторыя, ці разбурэнне помніка... То-бок гэта чарговае месца надлому грамадскасць/дзяржава?***

— Увогуле, усе аб'екты рэканструкцыі і рэстаўрацыі ў нас даволі спрэчныя. Калі казаць пра Стары замак, то праект быў распрацаваны Бачковым больш за 25 гадоў таму. Калісьці ўсе цешыліся



# збанкрутуе без пратэстаў»



МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
Праспект Пераможцаў, 11, 220004, г. Мінск
Тэлефон (017) 203 75 74
Факс (017) 203 90 45
e-mail: ministerstvo@kultura.by

МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
Проспект Победителей, 11, 220004, г. Минск
Телефон (017) 203 75 74
Факс (017) 203 90 45
e-mail: ministerstvo@kultura.by

23.04.2013 № 01-19/К-208
На № ______ ад ______

Колышавай Т.У.
220013, г.Мінск, вул.Усходняя, д.22, корп. 1, кв. 39

Аб выкананні заканадаўства па ахове гісторыка-культурнай спадчыны

Міністэрствам культуры разгледжаны зварот аб парушэнні заканадаўства па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры правядзенні работ па будаўніцтву аб'екта на тэрыторыі, прылеглай да гісторыка-культурнай каштоўнасці катэгорыі «1» – Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій 30-40-х гадоў ва ўрочышчы Курапаты.

Зыходзячы з палажэнняў артыкула 9 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь» Міністэрствам культуры выдана прадпісанне заказчыку работ СТОО «БелРестИнвест» і Мінскаму абласному выканаўчаму камітэту ад 30.10.2012 № 11-02-02/018 аб спыненні работ на тэрыторыі зоны аховы гісторыка-культурнай каштоўнасці. У дадзены час на разглядаемым аб'екце работы не выконваюцца, зваротаў аб дазволе на іх працяг у Міністэрства культуры не паступала.

З улікам катэгорыі гісторыка-культурнай каштоўнасці, адметныя духоўныя і дакументальныя вартасці якой маюць міжнародную значнасць, 27.12.2012 г. адбылася нарада з удзелам спецыялістаў упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры, прадстаўнікой Мінскага абласнога выканаўчага камітэта і Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь, заказчыка работ і іншых зацікаўленых, на якой абмяркоўвалася пытанне аб прыняцці мер па ўстраненню парушэнняў заканадаўства па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры будаўніцтве аб'екта на тэрыторыі, прылеглай да месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій ва ўрочышчы Курапаты. На названай нарадзе прынята аднагалоснае рашэнне аб неабходнасці вынаса аб'екта з тэрыторыі ахоўнай зоны гісторыка-культурнай каштоўнасці, на што указана заказчыку работ СТОО «БелРестИнвест».

Міністэрствам культуры будзе абавязкова пракантралявана выкананне дадзенага рашэння.

Намеснік Міністра В.І. Кураш

**Ліст ад 24 красавіка 2013 года грамадскай актывістцы Таццяне Колышавай ад намесніка міністра культуры Віктара Кураша**



17.11.2012 0703-05д-1745

Председателю Минского областного исполнительного комитета

Батуре Б.В.

ПРЕДСТАВЛЕНИЕ

Об устранении нарушений законодательства об охране историко-культурного наследия, причин и условий, им способствовавших

Генеральной прокуратурой в связи с поступлением более 400 обращений граждан проведена проверка законности строительства СООО «БелРестИнвест» объекта придорожного сервиса в непосредственной близости от границ мест захоронения жертв политических репрессий «Куропаты».

Установлено, что СООО «БелРестИнвест» на основании заключенного с Миноблисполкомом в 2010 году инвестиционного договора и согласованного территориальными органами архитектуры и строительства архитектурного проекта осуществляет строительство объекта придорожного сервиса на 51 км МКАД.

В соответствии с проектом общество возвело здание ресторана на 100 посадочных мест, баню, 4 домика модульного типа и детскую площадку. Готовность объекта составляет более 80%.

Вместе с тем строительство объекта СООО «БелРестИнвест» осуществляет в нарушение требований ст.37 Закона Республики Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь» (далее - Закон) – в отсутствие разрешений Минкультуры на проведение научно-исследовательских, проектных и реставрационно-восстановительных работ и без согласованной с Минкультуры научно-проектной документации.

Указанные разрешения в силу подпункта 4.4 Положения о порядке подготовки и выдачи разрешительной документации на строительство объектов, утвержденного постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 20.02.2007 № 223, относятся к

**Прадстаўленне ад 17 лістапада 2012 года Генпракуратуры старшыні Мінскага аблвыканкама Барысу Батуру «Аб устраненні парушэнняў заканадаўства па ахове гістарычна-культурнай спадчыны, прычынаў і ўмоваў, якія ім спрыялі»**

— нарэшце! У 2007-м у чарговы раз паўстала пытанне замку, праект прайшоў карэкціроўку, але прынцыповыя рашэнні не змяніліся. Навукова-метадычная рада яго тады ўзгадніла ў той форме. Чаму? Я не ведаю.

Усе працы па замку разбітыя на тры чаргі, зараз ідзе першая. Другая — палац, трэцяя — фартыфікацыя ўздоўж Нёмана. Праз інфармацыйныя скандальныя сітуацыі зараз робяцца спробы захаваць хоць нейкія фрагменты аўтэнтыкі. Мінкульт адсочвае сітуацыю, бо ёсць рэакцыя грамадскасці і польскага боку, пэўныя дробязі карэктуюцца. Але праект па першай чарзе мы змяніць ужо не можам: ён прайшоў экспертызу, на яго зацверджаныя інвестыцыі, а вылучаныя грошы трэба засвоіць — усё.

***— Нядаўна была знішчаная галерэя XVII стагоддзя ад палацу да брамнай вежы, гэта — нармальна?***

— Бачковым у праекце былі закладзеныя такія адзнакі другога паверху, што галерэя ў іх не ўпісалася: зараз яе выкладаюць з сучасных матэрыялаў… Гэта ненармальна. Але ў нас рэстаўрацыйны працэс не ўрэгуляваны нарматывамі. Рэстаўрацыя робіцца згодна з агульнабудаўнічымі нарматывамі. Няма нават методык правядзення комплексных навуковых вышуканняў, каб на іх падставе правесці ацэнку, што каштоўнае, а што не.

Але і людзям трэба зразумець: любая рэстаўрацыя — гэта інтэрвенцыя ў аб'ект, знішчэнне нечага і з'яўленне новых элементаў. Не бывае рэстаўрацыі без знішчэння — ва ўсім свеце так. Хто думае па-іншаму — наўпрост не ўяўляе сабе працэсу.

***— Што ж рабіць у такой сітуацыі?***

— Трэба вучыцца і рабіць ацэнку каштоўнасці элементаў — і з гэтага сыходзіць. Ацэнка вызначае, што трэба захоўваць абавязкова, а чым можна ахвяраваць. Мы ж павінны рэстаўраваць аб'ект ці тое на пэўны перыяд, ці тое паказаць усе перыяды аб'екту. То-бок або выбіраем: ці замак Вітаўта, ці Баторыя, ці стан замку ў часы Сасаў. Альбо — паказваем усе храналагічныя слаі. Напрыклад, ці нішчыць нам усе элементы XIX стагоддзя, каб з новых матэрыялаў зрабіць так, як было ў XVI стагоддзі?.. Ахвяры будуць заўжды.

У нас няма, на жаль, метадалагічных падыходаў да рэстаўрацыі. А яны мусяць мець форму тэхнічных нарматываў, абавязковых для выканання, — ад гэтага ўся бяда, усе імправізацыі і фантазіі. Тое, што адбываецца на Старым замку, — здаровы сэнс прымаць не хоча, але, паводле нарматываў, — парушэнняў няма.

***— А ці не лепш, каб замак пастаяў у вартым жалю стане, але дачакаўся лепшых часоў і талковай рэстаўрацыі?***

— Гэта вялікае пытанне. Калі я — рэстаўратар, і ў мяне няма поўнага аб'ёму звестак пра аб'ект, ці хоць якіх звестак для ацэнкі аб'екту і прыняцця праектных рашэнняў, то для мяне асабіста хай лепш аб'ект дэградуе. Наўпрост не лезці! Бо заўжды застаецца шанец на навукова абгрунтаванае аднаўленне. У праекце Бачкова ёсць шэраг навуковых хібаў, таму не варта думаць, што гэта нейкае свавольства будаўнікоў ці Гроднаграмадзянпраекту.




**Грамадскі пратэст супраць адкрыцця рэстарану.** Фота Алены Ляшкевіч

Нядаўна акурат праводзіўся круглы стол, арганізаваны нашым Беларускім добраахвотным таварыствам аховы помнікаў гісторыі і культуры, дзе бралі ўдзел Мінкульт, наша таварыства, «Гісторыка», Белрэстаўрацыя і іншыя. На жаль, не прыехалі Гродзенскі аблвыканкам і Гроднаграмадзянпраект, але мы ўжо атрымалі ад іх прапанову зрабіць выязное пасяджэнне ў Гродна. Гэта была іх прапанова ў пісьмовай форме, таму лічу, што яны са свайго боку адкрытыя да дыялогу. Такім чынам, над другой і трэцяй чаргой праекту будзем працаваць разам, каб не дапускаць вось такіх хібаў. Вельмі спадзяюся!

### «Параўноўваць Беларусь і Польшчу некарэктна»

***— Курапаты і Стары замак у Гродне апошнім часам на слыху, а ці ёсць каштоўныя аб'екты з праблемамі, пра якія не пішуць і не кажуць?***

— Такіх аб'ектаў безліч! Напрыклад, кальвінскі збор XVI стагоддзя ў Кухцічах (Уздзенскі раён, пасёлак Першамайскі). Там яшчэ нядаўна тэхнікум быў. А раней — гэта тэрыторыя сядзібы Магдалены Радзівіл. Сядзібу будаваў архітэктар Карла Спампані ў XVIII стагоддзі, яна не захавалася, але ёсць два флігелі і збор. Уздзенскі выканкам на бязвыплатнай аснове перадаў усё гэта ініцыятыўнай групе пад кіраўніцтвам Аляксандра Сапегі (лідар беларускай дыяспары ў Швейцарыі. — рэд.). Хочацца радавацца! Але што з усім гэтым комплексам рабіць?.. Ліцэй, інтэрнаты, навучальныя карпусы. Калі нават туды грошы ўкласці — не будзе ніякай перспектывы.

Іншы прыклад: цыстэрцыянскі кляштар у Мазыры. Там таксама склалася ініцыятыўная група — мясцовы патрыятычны прадпрымальнік Баранаў, пісьменнік Андрусь Горват. Ім аддалі былы кляштар, адкуль выселілі Мазырдрэў. І што далей?.. Там трэба такія вялізныя капіталаўкладанні, а як пасля гэта акупіць, вярнуць грошы, дзе шукаць інвестараў?..

***— Што рабіць у такім выпадку? Ёсць жа прыклады Польшчы, Літвы…***

— Некарэктна параўноўваць нас і Польшчу. Каб у нас усё было, як у Польшчы, — тады добра. Але ў нас іншае інвестыцыйнае поле, іншы бюджэт, усё ж іншае! Калі Польшча можа карыстацца ўсімі прэферэнцыямі ЕС, там імкліва развіваецца эканоміка, там ёсць свае значныя інвестары… А што ў Беларусі? Іхны прыклад мы тут пакуль не рэалізуем.

***— То-бок гэта пытанне сацыяльна-эканамічнага стану краіны?***

— Менавіта. Гэта не пра тое, што ў нас манкурты, а там культурныя людзі. Гэта эканоміка. У нас столькі закінутых сядзібаў — гэта праблема. Але хто можа назваць інвестараў-беларусаў, якія б за іх узяліся, нават калі ім аддадуць? Нават калі з'яўляюцца грошы, часцяком усё робіцца праз азадак… Прыкладам, зараз на тэрыторыі Белавежскай пушчы будуецца археалагічны скансен: музей пад адкрытым небам. Насыпаюць штучнае гарадзішча, якога ніколі не было. І гэтымі працамі знішчаюцца стаянкі эпохі неаліту і бронзы!

***— А можна стаянкі даследаваць, а гарадзішча-скансен пасля зверху насыпаць?***

— Фрагментарна іх паспяваюць даследаваць, але ёсць графік працаў. Стаянкі — археалагічныя аб'екты, статусу гісторыка-культурных каштоўнасцяў не маюць. У Кодэксе аб культуры ўсё гэта прапісана вельмі цьмяна, таму археолагі з Інстытуту гісторыі што паспеюць даследаваць — тое паспеюць, а як не — то гэта ўжо страчана назаўжды.

***— Ну ёсць жа хоць нейкія пазітыўныя прыклады сярод гэтай цемрадзі?***

— Пазітыўныя прыклады, як ні парадаксальна, бачым толькі на аб'ектах дзяржфінансавання. Досыць няблага ідзе рэстаўрацыя Жыліцкага палацу Булгакаў. На вельмі высокім узроўні адрэстаўравалі Краснабярэжскі палац. Ёсць пытанні да Гомельскага палацу, але там далёка не ўсё так дрэнна, як любяць казаць, той жа Нясвіж і Мір… Дзякаваць Богу, прайшла інфармацыя, што Лукашэнка загадаў з Прэзідэнцкага фонду даць фінансаванне на Гальшанскі і Крэўскі замкі. Неяк так.




**Разыходжанні ў бачанні дэталяў Старога замку ў Гродне паміж гісторыкамі і архітэктарамі**

# Носьбіт высокага духу

## Прысвячаецца 215-годдзю з дня нараджэння Адольфа Янушкевіча



**Па гарызанталі:** 1. Горад на Міншчыне, дзе 9 чэрвеня 1803 года, у сям'і Міхала, падпалкоўніка польскай арміі, нарадзіўся беларускі падарожнік, пісьменнік, паэт, актыўны ўдзельнік паўстання 1830–1831 гадоў, Адольф Янушкевіч. 4. Паэма Адама Міцкевіча, у якой прататыпам рэвалюцыянера Адольфа паэту паслужыў Адольф Янушкевіч. 7. «Не патрэбна табе ні багацце, ні ...,\\ Бо Айчына — і ..., і наш супакой». З верша Віктара Шніпа «Балада Адольфа Янушкевіча». 9. Сімвал паэзіі. 10. Маленькі агурок, прызначаны для марынавання. 12. Сістэма абазначэнняў, сігналаў, якія перадаюць інфармацыю. 13. Пакаты спуск. 15. Драўляны брусок з дзяленнямі для вымярэння чаго-небудзь. 17. Акцёр, выканаўца камічных роляў. 18. Невялікая лугавая птушка; тое, што і дзяркач. 20. Аповесць рускага пісьменніка Івана Тургенева, які цікавіўся творчасцю Адольфа Янушкевіча. 21. Імя брата Адольфа, вядомага беларускага выдаўца, паэта, актыўнага ўдзельніка паўстання 1830–1831 гадоў, які ў Парыжы выдаў кнігу «Жыццё Адольфа Янушкевіча і яго лісты з кіргізскіх стэпаў». 24. Вялікіх памераў карціна на палатне. 26. ... Куканбаеў. Імя пачынальніка казахскай літаратуры, якога, зусім яшчэ маленькага, ссыльны царскім урадам Адольф Янушкевіч лячыў ад хваробы. 27. «Дык шануй, беларус, сваю мову — \\ Гэта ... нам на вечныя годы». З верша Алеся Гаруна «Ты, мой брат, каго завуць беларусам...». 28. Сталіца Рэспублікі Казахстан, горад, адна з цэнтральных вуліц якога названа імем Адольфа Янушкевіча; яго імя носіць таксама вуліца ў былой сталіцы краіны — у Алматы.

**Па вертыкалі:** 1. Умоўная велічыня, адносна якой вызначаецца тэмпература чаго-небудзь. 2. Уладзіслаў.... Прозвішча беларускага паэта — гуманіста, пісьменніка, публіцыста, аўтара цыкла санетаў «Успаміны пра Нясвіж» і інш. Сёлета — 195 гадоў з дня яго нараджэння. 3. Асадак на дне вадаёмаў. 4. Тамаш ..., Ян Чачот. Беларускія паэты-філаматы, удзельнікі рэвалюцыйнага руху супраць царскай Расіі, з якімі Адольф Янушкевіч пасябраваў у час вучобы ў Віленскім універсітэце. 6. Клаўдзій ... -Душэўскі. Вядомы дзеяч Беларускай Народнай Рэспублікі, выдавец, журналіст, лічыцца стваральнікам бел-чырвона-белага сцяга. 8. Паляўнічая сумка для дзічыны. 11. Нацыя, насельніцтва, якое аб'ядноўвае агульная мова, культура, побыт. Адольф Янушкевіч у сваіх падарожных нататках сцвярджаў, што казахі — ..., а не дзікае племя, як яго лічыў расійскі царскі урад. У знак удзячнасці казахі ўганаравалі Адольфа Янушкевіча званнем народнага героя Казахстана. 12. Ранейшая назва Дзяржынска, непадалёк ад якога, у вёсцы Дзягільна, знаходзіўся маёнтак Янушкевічаў, а на старых (панскіх) могілках знайшлі вечны супакой Адольф, яго маці і іншыя родзічы. У 2013 годзе могілкі наведала казахская дэлегацыя на чале з паслом Рэспублікі Казахстан у Беларусі сп. Е. Булігенавым. 14.... Сакалоўская. Імя маці Адольфа Янушкевіча, якая даводзілася Тадэвушу Касцюшку стрыечнай унучкай. 16. 8-радковы верш. 19. «Наша ж ... — цудоўная, спеўная,\\ Умее спелым калоссем шумець». З верша Наталлі Арсеннеавай «Жыве Беларусь». 22. Рыбалоўная снасць. 23. Зямельная мера ў некаторых краінах. 25. Вялікі майстар сваёй справы.

**Склаў Лявон Целеш, Дзяржынск**



**Адказы на крыжаванку «Чарнобыль душы полымем апёк» (НЧ, 15 ад 27 красавіка):**

**Па гарызанталі:** 1. Бівак. 4. Анемія. 7. Лялька. 12. Круча. 13. Задышка. 14. Грыбы. 17. Клады. 19. Ордэн. 21. Фетыш. 22. Ножны. 23. Горан. 24. Кажан. 26. Аркан. 28. Джунглі. 32. Глыба. 36. Асарці. 37. Радыст. 38. Ронда.

**Па вертыкалі:** 1. Бяда. 2. Вочы. 3. Клёк. 5. Ноч. 6. Ма. 8. Ля. 9. Кар. 10. Крок. 11. Збан. 15. Шыпшына. 16. Хойнікі. 18. Аўтар. 20. Дождж. 23. Гора. 25. Неба. 27. АЭС. 29. Жвір. 30. Неон. 31. Ліра. 33. Лёс. 34. Яр. 35. Ёд.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

НАДРУКАВАНА ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №238

Падпісана да друку 08.06.2018. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.